Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **2** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2016

УДК 51(075.2=161.3)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т

кафедра дашкольнай і пачатковай адукацыі педагагічнага факультэта ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава» (дацэнт кафедры, кандыдат педагагічных навук, дацэнт *З. К. Ляўчук*)

## Умоўныя абазначэнні:

 — новы матэрыял;

 — дружныя задачы;

 — заданне на кемлівасць;

 — адкажы на пытанне, выканай заданне;

 — выканай дома;



— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!».

**ISBN 978-985-559-628-9 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-626-5**

# Змест





# Пазатаблічнае складанне і адніманне лікаў у межах 100



Як рознымі спосабамі вылічыць, колькі ўсяго птушак на малюнку?



$(5 + 3) + 4 = ?$
$8 + 4 = 12$

$5 + (3 + 4) = ?$
$5 + 7 = 12$




Пры складанні можна два суседнія складаемыя замяніць іх сумай.

**1.** Растлумач розныя спосабы складання лікаў.

6 + 4 + 5　　10 + 20 + 30
5 + 2 + 8　　30 + 30 + 40

**2.** Састаў выразы з дужкамі.
Знайдзі значэнні выразаў.






**3.** Пастаў дужкі так, каб роўнасці былі правільныя.

20 – 10 + 10 = 20 90 – 40 – 30 = 20

20 – 10 + 10 = 0 90 – 40 – 30 = 80

**4.** Знайдзі даўжыню адрэзка. Начарці адрэзак, даўжыня якога на 2 см большая.




**5.** Было 80 м тканіны. Спачатку адрэзалі 20 м тканіны, а потым яшчэ столькі ж метраў. Колькі метраў тканіны засталося?

**6.** Раніцай бабуля спякла піражкі. За снеданнем дзеці з'елі 5 піражкоў, а за абедам — 9. Засталося 6 піражкоў. Колькі піражкоў спякла бабуля?

? Як скласці лікі 50, 20 і 10 рознымі спосабамі?



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

100 – (1 + 19) (72 – 2) + 4

**2.** Міле 10 гадоў. Колькі гадоў Дашы, калі яна на 7 гадоў старэйшая за Мілу?



**Перамяшчальная** ўласцівасць складання:
6 + 2 = 2 + 6

**Спалучальная** ўласцівасць складання:
6 + 2 + 4 = (6 + 2) + 4 = 6 + (2 + 4)

Ведаючы гэтыя **ўласцівасці** складання, можна выконваць вылічэнні рознымі спосабамі.

2 + 9 + 8 + 1 = ?

Спосаб 1
2 + 9 + 8 + 1 = ?
11 + 8 + 1 = ?
19 + 1 = 20

Спосаб 2
2 + 8 + 9 + 1 = ?
(2 + 8) + (9 + 1) = ?
10 + 10 = 20

**1.** Вылічы рознымі спосабамі.

3 + 6 + 7
8 + 5 + 2

5 + 1 + 5 + 4
8 + 4 + 2 + 6

**2.** Знайдзі значэнні выразаў. Прачытай выразы, у якіх дужкі не ўплываюць на рэзультат вылічэнняў.

(6 + 9) – 3
6 + (9 – 3)
6 + 9 – 3

15 – (7 + 2)
(15 – 7) + 2
15 – 7 + 2

**3.** Разгледзь розныя спосабы запісу рашэння задачы.
У буфеце было 20 бісквітных пірожных і 30 заварных. Прадалі 10 пірожных. Колькі пірожных засталося?

1) 20 + 30 = 50 (п.)
2) 50 – 10 = 40 (п.)

(20 + 30) – 10 = 40 (п.)

**4.** На катку было 10 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. Пайшлі 5 дзяцей. Колькі дзяцей засталося на катку?

**5.** Растлумач выразы.
Аўтобус у першы дзень быў у дарозе 10 гадзін, у другі — 8 гадзін, а ў трэці дзень — яшчэ 10 гадзін.

10 + 8    10 – 8    10 + 8 + 10

**6.** Параўнай.
6 дм ? 60 см
5 м ? 50 см
54 см ? 5 дм 3 см
9 дм ? 9 м

? Растлумач, як можна знайсці значэнне выразу.

2 + 10 + 8



**1.** Вылічы.
20 + 10 + 30
18 – (12 – 6)

**2.** На сцэне было 20 танцораў. Пайшлі 6 танцораў, а прыйшлі 4. Колькі танцораў стала?





Растлумач вылічэнні.

34 + 2 = 30 + (4 + 2) = ?

30 4



34 + 20 = (30 + 20) + 4 = ?

30 4

**1.** Вылічы і растлумач.

54 + 3 35 + 2 4 + 23

37 + 2 41 + 5 6 + 72

**2.** Вылічы і растлумач.

45 + 20 27 + 30 40 + 42

30 + 33 50 + 14 64 + 10

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

38 – (29 + 1) 14 – (17 – 9)

40 + (13 – 5) 60 – (16 – 15)

**4.** Вымерай даўжыню адрэзкаў. Знайдзі суму іх даўжынь. Начарці адрэзкі на 2 см даўжэйшыя за дадзеныя. Знайдзі суму даўжынь пабудаваных адрэзкаў.







**5.** Запішы рашэнне задачы па дзеяннях і выразам. На будоўлю прыехала 20 машын з пяском і 8 машын з гравіем. Пасля разгрузкі 4 машыны паехалі. Колькі машын засталося?

**6.** У 18 г 10 мін Міша пачаў чытаць кнігу. Калі ён прачытаў 20 старонак, яму засталося прачытаць яшчэ 10 старонак. Колькі старонак у кнізе?

**7.** Які гадзіннік паказвае час, калі Міша пачаў чытаць кнігу?



? Растлумач, як выканаць складанне.

52 + 4    52 + 40



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

16 + 20    46 + 2    54 + 30    54 + 3

**2.** Знайдзі колькасць камп'ютараў у трох класах, калі ў адным класе 10 камп'ютараў, у другім — столькі ж, а ў трэцім — 8 камп'ютараў.





Растлумач вылічэнні.

34 – 2 = 30 + (4 – 2) = ?

30 4



34 – 20 = (30 – 20) + 4 = ?

30 4

**1.** Вылічы і растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| 26 – 3 | 47 – 5 | 97 – 6 |
| 56 – 4 | 98 – 3 | 69 – 7 |

**2.** Вылічы і растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| 57 – 20 | 64 – 30 | 82 – 50 |
| 37 – 10 | 99 – 40 | 78 – 60 |

**3.** Састаў з выразаў правільныя роўнасці.

42 + 5 | 94 – 20 | 67 – 20 | 71 + 3

**4.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 1 дм + 10 см | 5 см + 3 дм 4 см |
| 7 дм – 1 см | 1 дм 3 см + 20 см |

**5.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

3 кг + ? кг = 35 кг        57 кг – ? кг = 50 кг

**6.** У Віні-Пуха ёсць 4 л мёду, а варэння — на 8 л больш. Колькі літраў варэння ў Віні-Пуха?



**7.** Дапоўні ўмову гэтай задачы адказам задачы 6. Рашы задачу.
У Віні-Пуха ёсць 4 л мёду і ? л варэння. Колькі ўсяго літраў мёду і варэння ў Віні-Пуха?

**8.** Мама адпрасавала 12 белых і 8 жоўтых сурвэтак. Калі некалькі сурвэтак мама схавала ў шафу, у яе засталося 4 сурвэткі. Колькі сурвэтак мама схавала ў шафу?

**9.** Назаві ў кожным радзе лішні лік.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 63 | 37 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15 | 25 | 35 | 54 | 55 | 65 | 75 |

? Растлумач, як выканаць адніманне.

67 – 4    67 – 40



**1.** Вылічы.
65 – 40    65 – 4    95 – 30    95 – 3

**2.** Калі прадалі 12 кг разынак і 8 кг чарнасліву, засталося 10 кг сухафруктаў. Колькі кілаграмаў сухафруктаў было?



У Тані 4 арэхі, а ў Веры на 3 арэхі больш. Колькі ўсяго арэхаў у дзяўчынак?

Таня — 4 арэхі
Вера — ?, на 3 арэхі больш } ?




Пра што можна даведацца спачатку?




Пра што можна даведацца потым?




**1.** Выберы схему. Рашы задачу.
Дзіма знайшоў 20 грыбоў, а Вася — на 4 грыбы больш. Колькі грыбоў знайшлі сябры?







**2.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.
Пасля таго як з 30 л малака прыгатавалі тварог, засталося 40 л малака. Колькі літраў малака было?

**3.** Растлумач выразы. Знайдзі іх значэнні.
Сабралі 10 шклянак чарніц і 8 шклянак малін. З'елі 2 шклянкі ягад.

(10 + 8) – 2    (10 – 2) + 8    10 + (8 – 2)

**4.** Выпішы выразы, значэнні якіх большыя за 40.

45 + 4 43 + 30 74 – 40 57 – 6

99 – 8 49 – 10 10 + 31 37 + 2

**5.** Састаў выразы з дужкамі.
Знайдзі значэнні выразаў.







**6.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | 5 | 2 | 10 | 4 | 15 | 6 | ? | ? | ? | ? | ? |

**7.** Віка, Ніна і Ларыса любяць шыць, вязаць і вышываць. Кожная з дзяўчынак захапляецца толькі адным з відаў рукадзелля. Віка не вяжа. Ніна не вяжа і не вышывае. Што любіць рабіць кожная дзяўчынка?

Складзі пытанні да задачы.
Было 7 бяроз, а дубоў — на 3 больш.



**1.** Вылічы.

91 – 60 + 7 53 – (40 – 10)

**2.** У пункце пракату было 40 пар дарослых лыж і 27 пар дзіцячых лыж. Калі частку лыж узялі для катання, засталося 7 пар лыж. Колькі пар лыж узялі для катання?



На адной паліцы 6 кніг, а на другой — на 2 кнігі менш. Колькі кніг на дзвюх паліцах?

1 — 6 кніг
2 — ?, на 2 кнігі менш } ?




Пра што даведаемся спачатку?




Пра што даведаемся потым?




**1.** Выберы схему. Рашы задачу.
Саша пафарбаваў 12 м плота, а Віця пафарбаваў на 5 м менш. Колькі метраў плота пафарбавалі хлопчыкі разам?

1



2



**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 59 – 3 + 10 | 46 – 30 – 1 | 46 – (11 + 9) |
| 82 + 5 – 10 | 97 – 80 + 10 | (30 – 1) + 50 |

**3.** Параўнай.

40 см ? 3 дм      4 дм ? 50 см      10 дм ? 1 м

**4.** Даўжыня ломанай з двух звёнаў 8 см. Начарці такую ломаную, калі вядома, што даўжыні яе звёнаў роўныя.

**5.** Дзеці за 10 мін даехалі на веласіпедах ад дачы да возера. Потым яны 30 мін плавалі. На дарогу назад ім спатрэбілася 20 мін. Колькі мінут доўжылася прагулка?

**6.** Дзеці выехалі на прагулку ў 11 г 20 мін. Які гадзіннік паказвае час, калі дзеці прыехалі на возера?



**7.** Якія словы зашыфраваныя?

| М | У | Р | А | Ш | К | І | | ? | ? | ? | | ? | ? | ? | ? |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | 3 | 9 | 7 | 2 | 1 | 4 | | 9 | 7 | 1 | | 7 | 9 | 1 | 4 |

Якія яшчэ словы можна скласці? Зашыфруй гэтыя словы.

Складзі пытанні да задачы.
Купілі 9 кг груш, а яблыкаў — на 3 кг менш.



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
63 – (20 – 18)   (76 + 2) – 50

**2.** У лютым было 10 пахмурных дзён, а сонечных — на 8 дзён больш. Колькі ўсяго дзён было ў лютым?

**1.** Для выставы мастак падрыхтаваў 20 карцін: 8 пейзажаў, 7 нацюрмортаў і некалькі партрэтаў. Колькі партрэтаў падрыхтаваў мастак?

**2.** На кінастудыі знялі фільм з 20 серый. Потым знялі працяг фільма, у якім было на 5 серый менш. Колькі ўсяго серый фільма знялі?

**3.** Складзі задачы.




**4.** Вылічы.

13 + 40　　43 + 4　　70 + 18　　59 – 20
17 + 40　　79 – 1　　65 – 10　　30 + 38

**5.** Вылічы.

22 см + 4 дм　　3 дм 3 см – 3 дм
10 дм – 30 см　　1 м – 1 дм – 1 см

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

26 + ? = 1 + 35　　74 – 20 = ? + 30

**7.** Састаў выразы па ўзоры.
Знайдзі значэнні выразаў.




(37 – 7) + 50 = 80










**8.** Бяроза вышэйшая за рабіну, але ніжэйшая за сасну. Якое дрэва самае высокае? Растлумач схему.






**1.** Вылічы.

28 – (50 – 40)    (83 + 5) – 70

**2.** У Бярэзінскім запаведніку Алесь зрабіў 16 фотаздымкаў зуброў, а фотаздымкаў мядзведзяў — на 6 менш. Колькі ўсяго фотаздымкаў зрабіў Алесь?





Растлумач вылічэнні.

24 + 6 = 20 + (4 + 6) = ?

20 4

**1.** Вылічы і растлумач.

47 + 3 51 + 9 7 + 63 8 + 32

**2.** Састаў роўнасці.

| Лікі | Знайдзі | |
|---|---|---|
| 39 і 10 | рознасць | суму |
| 55 і 4 | суму | рознасць |

**3.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.







**4.** У майстэрні трэба адрамантаваць 20 крэсел. Адзін майстар адрамантаваў 6 крэсел, а другі — 4. Колькі крэсел засталося адрамантаваць?

**5.** Складзі адваротныя задачы.

Колькі качанят было, калі пасля таго, як купілі яшчэ 5 качанят, іх стала 25?

**6.** На вуліцы Вясновай было 10 дамоў. Гэта на 2 дамы менш, чым на вуліцы Зімовай. Колькі ўсяго дамоў на гэтых двух вуліцах?

**7.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

- Ад ліку 94 адняць суму лікаў 36 і 4.
- Да рознасці лікаў 72 і 70 прыбавіць 88.

**8.** Знайдзі даўжыні ломаных.

1



2



**9.** Ілья разрэзаў аркуш паперы на тры часткі. Адну з атрыманых частак ён таксама разрэзаў на тры часткі. Колькі частак аркуша паперы атрымалася ў Ільі?

? Растлумач, як да 48 дадаць 2.



**1.** Вылічы.

57 – 30    57 + 3    45 + 5    45 + 50

**2.** Было 30 лыжак. Узялі 5 вялікіх лыжак і 2 маленькія. Колькі лыжак засталося?





Растлумач вылічэнні.

30 – 2 = 20 + (10 – 2) = ?

20 10

**1.** Вылічы і растлумач.

90 – 2    50 – 6    80 – 4    100 – 5

**2.** Вылічы.

80 – (63 – 60)    20 – (16 – 8)    100 – 8

70 – (95 – 90)    (57 + 3) – 2    100 – 6

**3.** Прачытай задачу. Разгледзь схемы.
Рашы задачу.
Першы клас пасадзіў 10 ліп, другі клас — на 3 ліпы больш, чым першы. Трэці клас пасадзіў на 5 ліп больш, чым другі. Колькі ліп пасадзіў трэці клас?




**4.** Рашы задачу рознымі спосабамі.
У аўтобусе было 38 пасажыраў. На прыпынку выйшлі 5 мужчын і 3 жанчыны. Колькі пасажыраў засталося ў аўтобусе?

**5.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

4 + ? = 59 10 + ? = 87 63 – (? + 30) = 3
? – 6 = 71 ? + 9 = 90 (15 – 8) + ? = 77

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

72 + ? < 74 65 + ? < 67 83 – ? > 80 + 1

**7.** Выразі ў сантыметрах.

4 дм 6 см 2 дм 8 см 7 дм 7 см 1 м

**8.** Максіму 10 гадоў. Ён на 3 гады старэйшы за Ягора. Колькі гадоў будзе Ягору праз 4 гады?

**9.** Галя прабегла 30 м, Каця — 50 м, а Сяргей — 60 м. Выберы схему, якая падыходзіць, калі 1 см абазначае 10 м дыстанцыі.







? Растлумач, як ад 60 адняць 5.



**1.** Вылічы.

30 – (7 + 1) (72 – 30) + 8 41 + 9 – 2

**2.** У заапарку 15 ваўкоў. Гэта на 5 больш, чым лісіц. Колькі ваўкоў і лісіц у заапарку?



Колькі вуглоў у кожнай фігуры? Колькі старон? Растлумач назвы фігур.




У многавугольніка старон столькі ж, колькі вуглоў.

**1.** Назаві фігуры. Колькі вуглоў? Колькі старон?




**2.** Вылічы.

60 – 6　　　100 – 60 – 4　　　70 – (14 – 9)
90 – 7　　　20 + 30 – 9　　　(28 + 2) – 3

**3.** Параўнай.

2 дм 8 см + 30 см ? 6 дм – 2 см
46 см + 3 дм ? 7 дм + 5 см

4. За першую гадзіну працы кандытар упрыгожыў 20 тартоў. За другую гадзіну ён упрыгожыў на 6 тартоў больш, чым за першую, а за трэцюю гадзіну — на 3 тарты менш, чым за другую. Колькі тартоў кандытар упрыгожыў за трэцюю гадзіну працы?

5. Колькі ўсяго кустоў руж пасадзілі, калі чырвоных руж пасадзілі 30 кустоў, а белых — на 4 кусты менш?

6. Стрэлка праведзена ад горада, дзе больш жыхароў, да горада, дзе менш жыхароў. У якім горадзе больш за ўсё жыхароў? Менш за ўсё жыхароў?




? Як называецца многавугольнік, у якога пяць вуглоў? Колькі ў яго старон?



1. Вылічы.

(92 – 90) + 54 52 + 8 – 4 3 + (69 – 2)

2. На першай лініі метро 10 станцый, на другой — на 3 станцыі больш, чым на першай. На трэцяй лініі на 4 станцыі больш, чым на другой. Колькі станцый на трэцяй лініі метро?



Знайдзі чатырохвугольнікі, у якіх усе вуглы прамыя.

   

**Прамавугольнік** — гэта чатырохвугольнік, у якога ўсе вуглы прамыя.

Адным колерам паказаны супрацьлеглыя стораны прамавугольніка.





Супрацьлеглыя стораны прамавугольніка роўныя.

**1.** Прачытай, як называюцца стораны прамавугольніка. Вымерай даўжыні супрацьлеглых старон.




**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

50 – (3 + 5), 50 – (14 – 8)

(1 + 5) + 24, (11 – 8) + 24

**3.** У зале музея павесілі яшчэ 4 карціны. Колькі карцін было ў зале, калі цяпер у ёй знаходзіцца 30 карцін?

**4.** Цеплаход плыў ад аднаго порта да другога 10 г. На дарогу назад яму спатрэбілася на 2 г менш. Колькі часу спатрэбілася цеплаходу на ўсё падарожжа?

**5.** Няхай цеплаход адплыў у 9 г раніцы. Які гадзіннік паказвае гэты час? Які гадзіннік паказвае, а якой гадзіне цеплаход прыплыў у другі порт?



? Закончы сказ: «Прамавугольнік — гэта ...».



**1.** Вылічы.

3 + 77 90 – 9 72 + 20 64 – 30

**2.** Калі на стаянку прыехала 5 машын, а потым яшчэ 3 машыны, на стаянцы стала 40 машын. Колькі машын было на стаянцы?





Растлумач вылічэнні.

28 + 6 = (28 + 2) + 4 = ?

2 4

**1.** Вылічы і растлумач.

47 + 9 78 + 5 55 + 8







**2.** Вылічы і растлумач.

37 + 5 64 + 8 6 + 49 7 + 85

**3.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 + 5 | 7 + 8 | 6 + 4 | 90 – 7 |
| 18 + 5 | 17 + 8 | 16 + 4 | 80 – 7 |
| 28 + 5 | 27 + 8 | 26 + 4 | 70 – 7 |

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб атрымаліся правільныя роўнасці.

49 = 30 + ? 27 = ? − 3 + 3

60 = 52 + ? 58 = 40 + ? + 8

70 = ? − 6 80 = ? − 5 − 5

**5.** На колькі лік большы ці меншы за значэнне выразу?

60 і 60 − 7 31 + 8 і 40 90 і 45 + 50

**6.** Выберы схему. Рашы задачу.
У кошыку 25 баравікоў, 5 падасінавікаў, а лісічак столькі, колькі баравікоў і падасінавікаў разам. Колькі ўсяго грыбоў у кошыку?







**7.** Піцэрыя закупіла 36 кг вяндліны, 4 кг перцу, а сыру столькі, колькі вяндліны і перцу разам. Колькі ўсяго кілаграмаў прадуктаў закупіла піцэрыя?

**8.** Знайдзі даўжыні ломаных.





Растлумач, як знайсці суму лікаў 47 і 7.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

48 + 6  73 + 9  80 – 3  50 – 6

**2.** У адпачынку сям'я 15 дзён правяла на дачы, а на возеры — на 5 дзён менш, чым на дачы. У горадзе сям'я правяла на 4 дні менш, чым на возеры. Колькі дзён сям'я правяла ў горадзе?





Растлумач вылічэнні.

32 – 5 = (32 – 2) – 3 = ?

2 3

**1.** Вылічы і растлумач.

24 – 9 73 – 6 55 – 8

  

**2.** Вылічы і растлумач.

34 – 5 44 – 8 61 – 7 52 – 5

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 11 – 6 | 14 – 7 | 32 – 9 | 6 + 57 |
| 21 – 6 | 24 – 7 | 42 – 9 | 6 + 67 |
| 31 – 6 | 34 – 7 | 52 – 9 | 6 + 77 |

**4.** У атэлье пашылі 31 мужчынскую куртку і 9 дзіцячых. Жаночых куртак пашылі столькі, колькі мужчынскіх і дзіцячых разам. Колькі ўсяго куртак пашылі ў атэлье?

**5.** Растлумач вылічэнні.
Купілі 20 кг цыбулі, 30 кг буракоў і 10 кг морквы.

| | | |
|---|---|---|
| 20 + 30 | 20 + 30 + 10 | (30 + 10) – 20 |
| 30 – 10 | (20 + 30) – 10 | (20 + 10) – 30 |

**6.** Якія адзінкі даўжыні падыходзяць?

Даўжыня алоўка — 15 ... .

Таўшчыня кнігі — 2 ... .

Вышыня дрэва — 30 ... .

Шырыня стала — 6 ... .

дм    см    м

**7.** Параўнай.

30 см ? 3 дм 3 см        74 см ? 1 м – 30 см

**8.** Начарці два адрэзкі: адзін — даўжынёй 1 дм, другі — на 4 см карацейшы.

- Падзялі першы адрэзак папалам. Знайдзі даўжыню кожнай часткі адрэзка.
- Падзялі другі адрэзак на адрэзкі даўжынёй па 2 см. Колькі адрэзкаў атрымалася?

? Растлумач, як знайсці рознасць лікаў 68 і 9.



**1.** Вылічы.

41 – 4        53 – 6        76 – 9        95 – 8

**2.** Купілі 17 шклянак малін і 3 шклянкі суніц. Чарніц купілі столькі шклянак, колькі шклянак малін і суніц разам. Колькі ўсяго шклянак ягад купілі?



Знайдзі прамавугольнікі, у якіх даўжыні ўсіх старон роўныя.



**Квадрат** — гэта прамавугольнік, у якога даўжыні ўсіх старон роўныя.

1. Вымерай стораны квадрата.






2. Змяні пытанне задачы, каб яна рашалася ў два дзеянні.
Каля прычала было 12 лодак, а ка́тараў — на 5 менш. Колькі катараў было каля прычала?

3. У сталовай было 20 л малака. Гэта на 4 л менш, чым было кефіру. Колькі ўсяго літраў малака і кефіру было ў сталовай?

4. Складзі задачы, якія рашаюцца так:

$(21 + 5) - 8$

**5.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 7 + 8 | 14 – 9 | 23 + 7 | 30 – 6 |
| 27 + 8 | 34 – 9 | 43 + 7 | 50 – 6 |
| 47 + 8 | 54 – 9 | 63 + 7 | 70 – 6 |

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 100 = 30 + ? | 82 = 70 + ? |
| 95 = ? – 2 | 70 = 60 + ? |
| 47 = 20 + ? | 39 = 40 – ? |

**7.** Пеця сфатаграфаваў вежу з кубікаў. Пад якім нумарам гэты фотаздымак?




? Закончы сказ: «Квадрат — гэта ...».



**1.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 26 + 8 | 53 + 9 | 42 – 9 | 37 – 8 |

**2.** Купілі 20 мандарынаў і 7 апельсінаў. З’елі 9 фруктаў. Колькі фруктаў засталося?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 60 – 9 | 28 + 7 | 4 + 36 | 56 – 9 |
| 40 – 7 | 87 + 8 | 3 + 77 | 82 – 7 |

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб атрымаліся правільныя роўнасці.

| | | |
|---|---|---|
| 7 + ? = 100 | 41 – ? = 40 | ? – 30 = 2 |
| 8 + ? = 100 | 62 – ? = 60 | ? – 4 = 56 |
| 9 + ? = 100 | 94 – ? = 93 | ? – 7 = 93 |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | |
|---|---|
| 7 дм 4 см = ? см | 1 м = ? дм |
| 1 дм 9 см = ? см | 10 дм = ? см |
| 4 дм 4 см = ? см | 1 м = ? см |

**4.** У панядзелак Валодзя прачытаў 23 старонкі апавядання. У аўторак раніцай ён прачытаў яшчэ 7 старонак, а ў сераду дачытаў апавяданне да канца. Усяго ў апавяданні 49 старонак. Колькі старонак Валодзя прачытаў у сераду?

**5.** У 2 «А» класе 22 вучні. Гэта на 2 вучні больш, чым у 2 «Б» класе. Колькі вучняў у 2 «В» класе, калі іх на 3 менш, чым у 2 «Б» класе?

**6.** Дзве каманды гулялі ў баскетбол. Першая каманда выйграла ў другой з лікам 56 : 30. На колькі ачкоў першая каманда набрала больш, чым другая?

**7.** Няхай дзве каманды сыгралі яшчэ раз. Цяпер другая каманда выйграла ў першай з лікам 50 : 30. Хто набраў больш ачкоў за дзве гульні? На колькі ачкоў больш?

**8.** Колькі квадратаў? Колькі прамавугольнікаў?




Прадоўжы сказы: «Прамавугольнік — гэта чатырохвугольнік, у якога ...», «Квадрат — гэта прамавугольнік, у якога ...».



**1.** Параўнай.

47 + 5 ? 63 – 5 49 + 2 ? 57 – 6

**2.** Рабочым трэба пафарбаваць 100 м плота. Да абеду яны пафарбавалі 30 м, пасля абеду — столькі ж метраў. Колькі метраў плота засталося пафарбаваць?





Растлумач вылічэнні.

34 + 21 = (30 + 20) + (4 + 1) = ?

30 4 20 1

**1.** Вылічы і растлумач.

32 + 47 ? ? ? ?

68 + 11 ? ? ? ?

**2.** Вылічы і растлумач.

25 + 34 52 + 16 12 + 87 43 + 26

**3.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 32 + 15 | 6 + 8 | 90 – 7 | 63 – 5 |
| 42 + 15 | 16 + 8 | 80 – 6 | 73 – 5 |
| 52 + 15 | 26 + 8 | 70 – 5 | 83 – 5 |

**4.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

- Павяліч рознасць лікаў 50 і 4 на 8.
- Паменшы суму лікаў 13 і 25 на 6.

**5.** Па факсе ў 9 г адправілі 5 дакументаў, у 14 г яшчэ 8 дакументаў. Засталося адправіць 10 дакументаў да 17 г 30 мін. Колькі ўсяго дакументаў адправяць за дзень?

**6.** Выберы схему. Рашы задачу.
Са збана спачатку налілі 2 шклянкі соку, а потым яшчэ 3 шклянкі соку. У збане засталося 10 шклянак соку. Колькі шклянак соку было ў збане?







**7.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.
Мультфільм ішоў 20 мін, а дакументальны фільм — 30 мін. Колькі мінут ішлі гэтыя фільмы?

**8.** Вазьмі аркуш паперы прамавугольнай формы. Як зрабіць з гэтага аркуша квадрат з дапамогай нажніц, але без лінейкі?

Растлумач, як 66 павялічыць на 22.



**1.** Вылічы.
42 + 35    34 + 31    41 + 47    55 + 24

**2.** Кірылу 4 гады, а мама на 20 гадоў старэйшая за Кірыла. Колькі гадоў тату, калі яму столькі гадоў, колькі Кірылу і маме разам?





Растлумач вылічэнні.

54 – 23 = (50 – 20) + (4 – 3) = ?

54 → 50, 4; 23 → 20, 3

1. Вылічы і растлумач.

95 – 22 → 95: ? ?; 22: ? ?

79 – 54 → 79: ? ?; 54: ? ?

2. Вылічы і растлумач.

65 – 32    48 – 26    89 – 44    75 – 13

3. Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

78 – : 12 + 5; 22 + 3; 31 + 12

+ 24 : 43 – 2; 39 – 16; 54 – 32

4. З 57 дм багету зрабілі рамку для нацюрморта і рамку для пейзажа. Колькі дэцыметраў багету засталося, калі для адной рамкі спатрэбілася 20 дм багету, а для другой — 14 дм?

5. Складзі да задачы розныя пытанні.
У аддзеле цацак было 25 мішак і 37 лялек. Прадалі 13 мішак і 15 лялек.

**6.** Складзі і рашы задачы.







**7.** Назаві нумары прамых, вострых і тупых вуглоў.




**8.** Міця вырашыў зрабіць лесвічку з кубікаў. Колькі кубікаў ён павінен узяць, каб скласці лесвічку з 4 прыступак? З 5 прыступак?



Растлумач, як 77 паменшыць на 22.



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

74 – 32 69 – 45 88 – 36 98 – 72

**2.** У дзень нараджэння Мікіта атрымаў 6 віншаванняў ад гасцей, 20 віншаванняў па тэлефоне і 12 віншаванняў па электроннай пошце. Колькі ўсяго віншаванняў атрымаў Мікіта?





Растлумач вылічэнні.

36 + 24 = (30 + 20) + (6 + 4) = ?

36 → 30, 6; 24 → 20, 4

**1.** Вылічы і растлумач.

11 + 49 (11 → ?, ?; 49 → ?, ?)

57 + 33 (57 → ?, ?; 33 → ?, ?)

**2.** Вылічы і растлумач.

35 + 35    42 + 28    26 + 24    27 + 53

**3.** Якія з трох лікаў з'яўляецца сумай двух другіх? Састаў роўнасці.

22 28 6    86 3 83    20 57 37    4 45 41

**4.** Устаў прапушчаныя лікі.

25 см + ? см = 86 см    ? дм + 1 см = 21 см

3 дм + ? см = 6 дм    ? см + 6 дм = 1 м

**5.** Састаў роўнасці.

46 + 12 → ?; ? − 32 → ?

84 − 44 → ?; 60 + ? → ?

**6.** Пасадзілі 20 фасолін, зярнятак кабачкоў — на 5 менш, чым фасолін, а зярнятак агуркоў столькі, колькі фасолін і зярнятак кабачкоў разам. Колькі зярнятак агуркоў пасадзілі?

**7.** Тата ад дома да альтанкі робіць 30 крокаў. Кастусь да той жа альтанкі робіць на 12 крокаў больш, чым тата. Колькі крокаў павінен зрабіць Кастусь, каб дайсці ад дома да альтанкі і вярнуцца назад?

**8.** Вазьмі 3 аднолькавыя квадраты. Ці можна з гэтых квадратаў саставіць новы квадрат? Колькі квадратаў можна ўзяць, каб атрымаўся новы квадрат?

? Растлумач, як выканаць складанне.

47 + 33



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

27 + 33 51 + 29 31 + 49 42 + 18

**2.** На сеанс у планетарый прыйшлі 37 хлопчыкаў, а дзяўчынак — на 5 больш. Дарослых прыйшло на 20 чалавек менш, чым дзяўчынак. Колькі дарослых прыйшло ў планетарый?



Растлумач вылічэнні.

$$36 + 64 = (30 + 60) + (6 + 4) = 100$$

30 6   60 4

**1.** Вылічы.

57 + 43    82 + 18    46 + 54
29 + 71    66 + 34    13 + 87

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

60 + 22 – 4    (15 + 5) + 50
74 – 2 + 28    80 – (47 – 7)
99 – 7 – 30    100 – (30 + 70)
59 + 40 + 1    100 – (18 – 17)

**3.** Лена і Сцяпан рашылі задачу.
Хто рашыў задачу правільна — Лена ці Сцяпан?
Машы на ўроку фізкультуры патрэбна прабегчы 60 м. Яна прабегла 20 м хутка, а наступныя 20 м павольна. Колькі метраў засталося прабегчы Машы?

Л (60 – 20) – 20 = 20 (м)

С 60 – (20 + 20) = 20 (м)

**4.** Рашы задачу двумя спосабамі.
На велагонцы стартавалі 95 удзельнікаў. У першы дзень сышлі з дыстанцыі 5 спартсменаў, у другі дзень — 10 спартсменаў. Колькі спартсменаў засталося ўдзельнічаць у велагонцы?

**5.** Калі ў тэатральнай касе купілі 23 дарослыя білеты і 17 дзіцячых білетаў на балет «Шчаўкунок», у касе засталося 52 білеты на гэты балет. Колькі білетаў на балет «Шчаўкунок» было ў касе?



? Растлумач, як выканаць складанне.

45 + 55



**1.** Вылічы.
32 + 3 + 65    77 + (20 + 3)    68 – (21 + 6)

**2.** У ломанай тры звяны. Даўжыня першага звяна ломанай 30 см, што на 6 см больш за даўжыню другога звяна. Даўжыня трэцяга звяна ломанай на 1 дм большая за даўжыню другога звяна. Знайдзі даўжыню трэцяга звяна ломанай.





Растлумач вылічэнні.

50 – 23 = (50 – 20) – 3 = ?

20 3

**1.** Вылічы і растлумач.

40 – 17 70 – 39 50 – 46







**2.** Вылічы і растлумач.

30 – 12 60 – 24 80 – 57 90 – 43

**3.** Параўнай.

17 ? 27 – 9 18 ? 60 – 42 48 + 2 ? 48 – 2

48 ? 38 + 9 53 ? 70 – 22 75 – 5 ? 75 – 4

**4.** Вылічы.

50 см – 2 дм + 24 см 45 см – 30 см + 6 см

62 см + 5 см – 4 см 8 дм – 20 см + 2 см

1 м – 6 дм + 4 см 1 м – 7 дм – 1 см

**5.** Калі б у бензабаку было на 15 л бензіну больш, у ім было б 45 л бензіну. Колькі літраў бензіну ў бензабаку?

6. Кампазітар напісаў 17 вальсаў, 13 маршаў, а песень столькі, колькі вальсаў і маршаў разам. Колькі п’ес напісаў кампазітар?

7. Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы. Карабель знаходзіўся ў марскім круізе 37 дзён. З іх 7 дзён ён стаяў у партáх. Колькі дзён карабель плыў па моры?

8. Якія вуліцы ўтвараюць пры перасячэнні прамыя вуглы? Непрамыя вуглы?




9. Алег знайшоў суму двух лікаў, якія знаходзяцца побач. Яна роўная 49. Якія лікі склаў Алег?

? Растлумач, як ад 60 адняць 11.



1. Вылічы.

70 – 25 30 – 18 44 + 56 37 + 23

2. Было 64 м тканіны. Колькі метраў тканіны застанецца ў кавалку, калі ад яго спачатку адрэзаць 14 м, а потым яшчэ 4 м?



Растлумач вылічэнні.

$$100 - 23 = (100 - 20) - 3 = 77$$

20 3

**1.** Вылічы.

100 – 34    100 – 95    100 – 74 + 8

100 – 13    100 – 64    100 – 49 – 4

**2.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 21 | 75 | 30 | ? | 51 | ? |
| Складаемае | ? | 15 | ? | 6 | 49 | 20 |
| Сума | 90 | ? | 38 | 49 | ? | 71 |

**3.** Параўнай.

34 + 3 ? 50 – 13    49 + 20 ? 70

60 – 21 ? 28 + 8    30 ? 54 – 30

**4.** Для дачнага ўчастка купілі 23 цыбуліны цюльпанаў, што на 9 менш, чым цыбулін нарцысаў. Цыбулін лілей купілі на 5 менш, чым цыбулін нарцысаў. Колькі цыбулін лілей купілі?

**5.** Складзі і рашы задачу.




**6.** Калі б у баку было на 12 л вады больш, у ім было б 50 л вады. З гэтага бака вылілі 30 л вады. Колькі літраў вады засталося ў баку?

**7.** Знайдзі даўжыні ломаных.







**8.** Начарці адрэзак, даўжыня якога роўная даўжыні першай ломанай. Начарці адрэзак, даўжыня якога на 4 см меншая за даўжыню другой ломанай.



**1.** Вылічы.

100 – (21 + 37)      100 – (83 – 41)

**2.** Вышыня рабіны 20 м. Бяроза на 5 м вышэйшая за рабіну, а таполя на 10 м вышэйшая за бярозу. Знайдзі вышыню таполі.



Знайдзі суму даўжынь усіх старон многавугольніка.



2 см + 2 см + 3 см + 5 см = ?

Сума даўжынь усіх старон многавугольніка — гэта яго **перыметр**.

**1.** Знайдзі перыметр кожнай фігуры.





**2.** Знайдзі перыметр прамавугольніка і квадрата.





**3.** Вылічы.

14 + 13 32 + 68 28 – 13 100 – 36

**4.** У каробцы было 50 кавалачкаў цукру. Да чаю кожны дзень сям'я бярэ 12 кавалачкаў цукру. Колькі кавалачкаў цукру застанецца ў каробцы праз два дні?

**5.** Састаў роўнасці.

| Памяншаемае | 25 | 100 | 44 | 100 |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 12 | 43 | 31 | 34 |

**6.** Вылічы рознымі спосабамі.

26 + 7 + 4 + 3        39 + 40 + 1 + 20

**7.** Дапоўні ўмову задачы, выкарыстоўваючы схему. Андрэю трэба прабегчы ? м. Ён ужо прабег ? м. Колькі метраў засталося прабегчы Андрэю? На колькі больш метраў яму засталося прабегчы, чым ён ужо прабег?




Закончы сказ: «Перыметр многавугольніка — гэта сума ...».



**1.** Вылічы.

78 – 22        90 – 44        35 + 12        61 + 29

**2.** У групе сучасных танцаў 46 дзяцей. З іх 30 дзяўчынак, астатнія хлопчыкі. На колькі больш дзяўчынак, чым хлопчыкаў, у групе сучасных танцаў?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 65 – 23 | 36 + 54 | 24 + 25 | 40 – 22 |
| 72 – 20 | 74 + 16 | 13 + 77 | 90 – 55 |

**2.** Запішы лікавыя выразы і знайдзі іх значэнні.

Лік 80 паменшы на суму лікаў 50 і 30.

Лік 40 павяліч на суму лікаў 26 і 14.

Лік 80 паменшы на рознасць лікаў 56 і 6.

Лік 40 павяліч на рознасць лікаў 20 і 12.

**3.** Глеб знайшоў у інтэрнэце цікавае апавяданне на 27 старонках. Калі ён раздрукаваў некалькі старонак, закончылася папера. Засталося раздрукаваць 14 старонак. На колькі старонак менш Глеб паспеў раздрукаваць, чым яму засталося раздрукаваць?

**4.** У гаспадарцы да вясенняй сяўбы падрыхтавалі 13 сеялак, а трактароў — на 5 больш. Колькі ўсяго сеялак і трактароў падрыхтавалі да сяўбы?

**5.** Сеня прынёс у дрывотню 34 палены, а дзядуля — на 3 палены менш, чым Сеня. Тата прынёс столькі пален, колькі Сеня і дзядуля разам. Колькі пален прынёс у дрывотню тата?

**6.** Пабудуй такія многавугольнікі ў сшытку. Знайдзі перыметр кожнай фігуры.



**7.** Міша начарціў дзве чырвоныя прамыя, а Юля — дзве зялёныя. Якія вуглы ўтварыліся пры перасячэнні гэтых прамых? Колькі атрымалася прамянёў?





**8.** Састаў з лічбаў 3, 6, 9 двухзначныя лікі. Лічбы ў ліку могуць паўтарацца. Колькі лікаў атрымалася? Запішы гэтыя лікі ў парадку нарастання.



**1.** Вылічы.

23 + 36   56 – 13   41 + 59   70 – 12

**2.** На экскурсію ў Нясвіж паехалі 14 хлопчыкаў. Дзяўчынак паехала на 6 больш, чым хлопчыкаў. Колькі дзяцей паехала на экскурсію?





27 + 35 = (20 + 30) + (7 + 5) = ?

20 7 30 5

Разважай так:
1. Да ліку 27 патрэбна дадаць лік 35.
2. Спачатку складваю дзясяткі, атрымліваю 50.
3. Потым складваю адзінкі, атрымліваю 12.
4. Да 50 дадаю 12, атрымліваю 62.

**1.** Вылічы і растлумач.

45 + 28 37 + 18 66 + 29 58 + 38

**2.** Вылічы.

55 + 25 47 – 15 70 – (11 – 6)

69 + 31 48 – 22 80 – (12 – 7)

**3.** Параўнай.

54 кг + 31 кг ? 45 кг + 44 кг

66 кг – 43 кг ? 20 кг – 12 кг

**4.** Вылічы.

67 см – 20 см + 5 см 1 м – 5 дм + 8 см

80 см – 5 дм + 17 см 1 м – 8 дм – 4 см

**5.** Купілі 2 каробкі алоўкаў, па 12 штук у кожнай, і яшчэ каробку, у якой было 6 алоўкаў. Колькі ўсяго алоўкаў купілі?

**6.** З агарода сабралі 34 кг агуркоў, 28 кг буракоў і памідоры. Колькі кілаграмаў памідораў сабралі, калі маса ўсёй гародніны была 100 кг?

**7.** Знайдзі даўжыні ломаных.



**8.** Пеця сфатаграфаваў вежу з кубікаў зверху. Знайдзі гэты фотаздымак.






Растлумач, як знайсці суму лікаў 48 і 25.



**1.** Вылічы.

26 + 36 35 + 29 18 + 74 49 + 39

**2.** На стол паставілі 2 збаны з малаком, па 7 шклянак малака ў кожным. За дзень сям'я выпіла 6 шклянак малака. Колькі шклянак малака засталося?





27 + 35 = (27 + 30) + 5 = ?

(35 → 30 5)

Разважай так:
1. Да ліку 27 патрэбна дадаць лік 35.
2. Спачатку да 27 дадаю 30, атрымліваю 57.
3. Потым да 57 дадаю 5, атрымліваю 62.

**1.** Вылічы і растлумач.

46 + 27 (46 → 40 6; 27 → 20 7)

46 + 27 (27 → 20 7)

**2.** Вылічы двума спосабамі.

59 + 35  28 + 33  44 + 39  73 + 18

**3.** Параўнай.

25 + 38 ? 25 + 36  39 + 11 ? 100 – 50

31 + 6 ? 54 – 6  67 – 24 ? 67 – 26

**4.** На спаборніцтвах па шашках Федзя згуляў усяго 15 разоў. Ён 7 разоў выйграў, а 4 разы прайграў. Колькі разоў Федзя згуляў унічыю?

**5.** Складзі розныя пытанні да ўмовы задачы.
У пункце пракату да абеду ўзялі 27 дзіцячых веласіпедаў, а дарослых — на 13 больш. Пасля абеду ўзялі яшчэ 10 дарослых веласіпедаў.

**6.** Тата пасадзіў каля дома сасну вышынёй 1 м. Вышыня дома 6 м. На колькі метраў павінна вырасці сасна, каб стаць вышэйшай за дом на 1 м?




**7.** Стрэлка праведзена ад вышэйшага дрэва да ніжэйшага. Якое дрэва самае высокае? Якія стрэлкі яшчэ можна правесці?




Растлумач два спосабы вылічэння.

38 + 27



**1.** Вылічы.
49 + 16 12 + 29 37 + 56 18 + 66

**2.** На будоўлі працавалі 36 рабочых. Днём прыйшлі яшчэ 13 рабочых, а 5 рабочых перайшлі на іншую будоўлю. Колькі рабочых засталося?





53 – 25 = (53 – 20) – 5 = ?

(25 = 20 + 5)

Разважай так:
1. Ад ліку 53 патрэбна адняць лік 25.
2. Спачатку ад 53 аднімаю 20, атрымліваю 33.
3. Потым ад 33 аднімаю 5, атрымліваю 28.

**1.** Вылічы і растлумач.

46 – 28 51 – 36 72 – 47 87 – 59

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 37 – 8 | 51 – 6 | 46 + 9 | 28 + 4 |
| 37 – 18 | 51 – 26 | 46 + 19 | 28 + 24 |
| 37 – 28 | 51 – 46 | 46 + 29 | 28 + 44 |

**3.** Вылічы. Састаў роўнасці па ўзоры.

20 + 5 = 25
25 – 5 = 20
25 – 20 = 5

30 + 7 6 + 41
80 + 4 3 + 52

**4.** У бібліятэцы на паліцы было 26 кніг на беларускай мове і 20 кніг на рускай мове. З паліцы знялі некалькі кніг. Засталося 30 кніг. Колькі кніг знялі з паліцы?

**5.** Дзяніс і Аляксей павінны праплыць па 100 м. Дзяніс ужо праплыў 30 м, а Аляксей — 40 м. Колькі метраў засталося праплыць кожнаму?



**6.** На колькі метраў аднаму хлопчыку засталося праплыць больш, чым другому?

**7.** Знайдзі і параўнай перыметры фігур.





**8.** Падумай, колькі лічбаў табе спатрэбіцца для запісу лікаў ад 0 да 30. Правер сваё меркаванне.

**?** Растлумач, як лік 42 паменшыць на лік 15.



**1.** Вылічы.

81 – 13 62 – 27 54 – 38 44 – 35

**2.** На адным участку дарогі трэба ўстанавіць 34 дарожныя знакі, а на другім — 18. Некалькі знакаў ужо ўстанавілі. Засталося ўстанавіць 22 знакі. Колькі дарожных знакаў ужо ўстанавілі?



Складанне можна праверыць адніманнем.




25 + 34 = 59
59 – 34 = 25

25 + 34 = 59
59 – 25 = 34

Калі ад сумы адняць адно са складаемых, павінна атрымацца другое складаемае.

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

46 + 23 37 + 42 85 + 15 68 + 25

**2.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Запішы правільныя роўнасці.

41 + ? = 45 12 + ? = 54 ? + 37 = 100
26 + ? = 28 18 + ? = 89 ? + 62 = 91

**3.** Параўнай.

10 см ? 1 м
68 см ? 7 дм
1 м ? 6 дм + 3 дм

4 дм ? 65 см – 24 см
10 дм ? 25 см + 70 см
1 м ? 91 см + 9 см

**4.** У адным доме 64 кватэры, а ў другім — на 32 кватэры менш. Колькі кватэр у двух дамах?

**5.** Растлумач, як састаўлены роўнасці.
Састаў роўнасці па ўзоры.

37 – 7 = 30
30 + 7 = 37
37 – 30 = 7




42 – 2 65 – 60 78 – 4 59 – 20

**6.** У кветкавым магазіне з 10 г да 12 г прадалі 39 гваздзікоў, а з 13 г да 17 г — 47 гваздзікоў. Сярод прададзеных гваздзікоў было 50 белых, астатнія чырвоныя. Колькі чырвоных гваздзікоў было прададзена?

**7.** Складзі і рашы задачу.




Закончы сказ: «Для праверкі складання трэба ад сумы ...».



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
Выканай праверку.
32 + 35 25 + 11 65 + 18 16 + 58

**2.** Ад шланга даўжынёй 68 м спачатку адрэзалі 22 м, а потым яшчэ столькі ж метраў. Колькі метраў шланга засталося?

# Урок 93



Адніманне можна праверыць складаннем.




64 – 41 = 23
23 + 41 = 64

Калі да рознасці дадаць аднімаемае, павінна атрымацца памяншаемае.

**1.** Вылічы і выканай праверку.

75 – 30 46 – 24 61 – 18 52 – 33

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

? – 42 = 5 ? – 29 = 57 20 + 30 + ? = 90
? – 30 = 26 ? – 71 = 29 80 – 40 – ? = 10

**3.** Састаў па схемах лікавыя роўнасці.









4. Праз 16 гадоў Мікалаю будзе 24 гады. Колькі гадоў будзе Мікалаю праз 3 гады?

5. У кросе ўдзельнічалі 35 бегуноў з нашай школы, што на 6 больш, чым бегуноў з іншай школы. Колькі ўсяго бегуноў удзельнічала ў кросе?

6. Якія словы падыходзяць да кожнай фігуры?












прамавугольнік | многавугольнік | трохвугольнік
шасцівугольнік | квадрат | чатырохвугольнік

7.  Сума трох лікаў роўная 80. Сума першага і другога роўная 60. Сума першага і трэцяга роўная 20. Знайдзі гэтыя лікі.

? Закончы сказ: «Адніманне можна праверыць складаннем. Для гэтага ...».



1. Вылічы і выканай праверку.

47 – 20　　65 – 33　　52 – 17　　94 – 49

2. Першы цясляр абстругаў 24 дошкі, а другі — на 5 дошак менш, чым першы. Трэці цясляр абстругаў на 9 дошак больш, чым другі. Колькі дошак абстругаў трэці цясляр?



Адніманне можна праверыць адніманнем.




78 – 47 = 31
78 – 31 = 47

Калі ад памяншаемага адняць рознасць, павінна атрымацца аднімаемае.

**1.** Вылічы і выканай праверку.

58 – 18 94 – 31 35 – 18 70 – 28

**2.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Запішы правільныя роўнасці.

38 – ? = 8 55 – ? = 21 91 – ? = 19
74 – ? = 20 67 – ? = 44 84 – ? = 48

**3.** Выканай дзеянні. Рэзультат запішы ў дэцыметрах і сантыметрах.

26 см + 9 см – 14 см 6 дм – 30 см + 42 см
75 см – 30 см + 16 см 1 м – 5 дм – 1 см
90 см – 2 дм + 4 см 1 м – 9 дм + 4 см

**4.** У Ігара 18 машынак. Калі б яго сястры Людзе падарылі 3 лялькі, у яе стала б столькі ж лялек, колькі машынак у Ігара. Колькі цацак у дзяцей?

**5.** Даўжыня адной стараны трохвугольніка 38 см, другой — столькі ж сантыметраў, а трэцяй стараны — 24 см. Знайдзі перыметр гэтага трохвугольніка.

**6.** Устаў прапушчаныя знакі дзеянняў, каб запісы былі правільныя.

22 ? 8 ? 4 = 26 38 ? 26 ? 45 = 57

**7.** Па дарозе адзін за адным ідуць 7 дзяцей. За кожным хлопчыкам, акрамя апошняга, ідзе дзяўчынка. Колькі дзяўчынак ідзе па дарозе?

Прадоўжы сказ: «Адніманне можна праверыць адніманнем. Для гэтага ...».



**1.** Вылічы і выканай праверку.

46 – 26 41 – 27 40 – 28 100 – 67

**2.** На суботніку ў парку пафарбавалі 40 лавак. З іх 26 лавак пафарбавалі жоўтай фарбай, астатнія — сіняй. На колькі больш лавак пафарбавалі жоўтай фарбай, чым сіняй?

**1.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | ? | 63 | 33 | ? | ? | 33 |
| Складаемае | 28 | ? | ? | 13 | 23 | 37 |
| Сума | 73 | 90 | 85 | 51 | 100 | ? |

**2.** Параўнай.

70 – 2 ? 71 – 4

24 + 6 ? 49 – 9

19 + 19 ? 62 – 24

57 + 24 ? 70 + 10

**3.** Вылічы. Выканай праверку.

38 + 57　　19 + 66　　65 – 32　　71 – 27

**4.** Выберы пары лікаў, сума якіх роўная 74. Састаў роўнасці.

33　28　17　41　57　46

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.

У першым пакеце было 46 гарошын. Калі з яго ўзялі 18 гарошын, у ім засталося на 10 гарошын больш, чым у другім пакеце. Колькі гарошын у другім пакеце?






**6.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
На каруселях каталіся 25 дзяцей. Потым 12 дзяцей пайшлі на арэлі, а на каруселі прыйшлі яшчэ 10 дзяцей.

**7.** Знайдзі перыметр прамавугольніка, квадрата і трохвугольніка. Начарці ў сшытку гэтыя фігуры.





**1.** Вылічы.
90 – 15    82 – 27    74 – 35    100 – 13

**2.** У садзе ў двух радах па 25 яблынь, а ў трэцім радзе 34 грушы. Колькі ўсяго дрэў у трох радах?



На малюнках 1 і 2 лік 32 паказаны па-рознаму. Як абазначаны дзясяткі на першым малюнку? На другім малюнку? Як абазначаны адзінкі на кожным малюнку?







**1.** Запішы лікі. Колькі дзясяткаў? Колькі адзінак?










**2.** Намалюй па ўзоры.




| | | |
|---|---|---|
| 63 | 55 | 34 |
| 43 | 16 | 60 |

**3.** Вылічы. Выканай праверку.

| | | |
|---|---|---|
| 47 – 29 | 100 – 47 | 27 + 19 |
| 56 – 39 | 83 – 59 | 24 + 76 |

**4.** У касцюмернай тэатра было 29 мужчынскіх і 48 жаночых касцюмаў. Для спектакля ўзялі 14 касцюмаў. Колькі касцюмаў засталося ў касцюмернай?

**5.** Параўнай кароткія запісы. Складзі і рашы задачы.

1 — 32 кг сліў
2 — ?, на 15 кг сліў больш



1 — 32 кг сліў
2 — ?, на 15 кг сліў больш




**6.** Якія лікі падыходзяць? Запішы няроўнасці з найбольшымі з гэтых лікаў.

48 + ? < 55      56 – ? > 52      100 > 95 + ?

**7.** Колькі жоўтых квадратаў змесціцца ў прамавугольніку?



Колькі дзясяткаў і адзінак у ліку 27? У ліку 30? У ліку 88?



**1.** Вылічы.

33 – 27      45 – 37      36 + 29      77 + 23

**2.** У магазіне было 25 скрынак з памідорамі і 32 скрынкі з агуркамі. Вечарам засталося 30 скрынак з гароднінай. Колькі скрынак гародніны было прададзена за дзень?





Дзясяткі | Адзінкі

32 + 24 = ?

Пры складанні лікі зручна запісваць адзін пад адным — у слупок. Пры складанні ў слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак.

$$\begin{array}{r} +\,32 \\ 24 \\ \hline 56 \end{array}$$

Разважай так:

1. **Пішу** дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. **Складваю адзінкі.** Атрымліваю 6. Пішу 6 пад адзінкамі.
3. **Складваю дзясяткі.** Атрымліваю 5. Пішу 5 пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 56.

**1.** Вылічы і растлумач.

$$\begin{array}{r} +\,42 \\ 36 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,67 \\ 22 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,13 \\ 44 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,65 \\ 31 \\ \hline ?? \end{array}$$

**2.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.







**3.** Было 35 тэлефонаў і 22 смартфоны. Прадалі 15 тэлефонаў. Чаго стала больш — тэлефонаў ці смартфонаў? На колькі больш?

**4.** У брата і сястры былі карамелькі і ірыскі. Брат узяў сабе 14 цукерак, а сястра — 15 цукерак. Колькі было карамелек, калі ірысак было 9?

**5.** Даўжыня прамавугольніка 8 см, а шырыня 5 см. Знайдзі яго перыметр.


Як выканаць складанне лікаў 34 і 53 у слупок?


**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

22 + 34    40 + 31    65 + 22    34 + 51

**2.** Ад кавалка дроту спачатку адрэзалі 22 дм, а потым яшчэ столькі ж. Засталося 56 дм дроту. Колькі дэцыметраў дроту было ў кавалку?






$45 - 23 = ?$

Пры адніманні лікі зручна запісваць адзін пад адным — у слупок. Пры адніманні ў слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак.

$$\begin{array}{r} -\,45 \\ 23 \\ \hline 22 \end{array}$$

Разважай так:

1. **Пішу** дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. **Аднімаю адзінкі.** Атрымліваю 2.
   Пішу 2 пад адзінкамі.
3. **Аднімаю дзясяткі.** Атрымліваю 2.
   Пішу 2 пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 22.

**1.** Вылічы і растлумач.

$$\begin{array}{r} -\,54 \\ 23 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,77 \\ 15 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,69 \\ 34 \\ \hline ?? \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,85 \\ 11 \\ \hline ?? \end{array}$$

2. Для рамонту кухні купілі 40 вялікіх і маленькіх керамічных плітак. Маленькіх плітак купілі 17. Колькі вялікіх плітак купілі?

3. Няхай купілі пліткі толькі блакітнага і жоўтага колеру. Жоўтых плітак 20. Ці могуць усе жоўтыя пліткі быць маленькімі? Ці могуць усе маленькія пліткі быць жоўтымі?

4. Першы месяц лета 15 вучняў класа правядуць у летнім лагеры, 4 вучні — на дачах, а Света і Валера — у бабулі ў вёсцы. Колькі вучняў у класе?

5. Вырազі ў іншых адзінках даўжыні.
10 дм = ? м     10 см = ? дм     2 дм = ? см

? Як выканаць адніманне лікаў 74 і 22 у слупок?

1. Запішы ў слупок. Вылічы.
88 – 36     54 – 31     32 + 23     56 + 33

2. Даўжыня ломанай з трох звёнаў 34 см. Даўжыня першага звяна 12 см. Даўжыня другога звяна 15 см. Якая даўжыня трэцяга звяна ломанай.

**1.** Якія лікі прапушчаны? Састаў роўнасці.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 61 | 38 | ? | 14 | 15 | ? |
| Складаемае | ? | 49 | 18 | ? | 50 | 36 |
| Сума | 99 | ? | 72 | 52 | ? | 74 |

**2.** Вылічы. Выканай праверку.

26 + 38　　53 + 29　　42 – 21　　37 – 16

**3.** Запішы ў слупок. Вылічы.

54 + 32　　67 + 12　　85 – 44　　58 – 27

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

12 + 16 + 4　　20 + (12 + 4)　　(25 + 40) + 15

59 + 30 + 1　　13 + (9 + 17)　　36 + (4 + 14)

**5.** Вылічы.

(90 + 3) – 38　　100 – (50 – 29)　　80 – (19 + 26)

(31 – 27) – 4　　(48 + 14) − 61　　50 + (14 + 36)

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

36 + ? = 39　　59 – ? = 57

75 – ? = 53　　47 + ? = 68

64 – ? = 21　　14 + ? = 84

**7.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.







**8.** Параўнай.

6 дм ? 6 см

1 м 2 дм ? 15 дм

10 дм ? 1 м

3 дм 5 см ? 35 дм

6 дм – 20 см ? 1 м – 5 дм

90 см – 6 дм ? 1 м – 40 см

**9.** Якія адзінкі даўжыні падыходзяць? Закончы сказы.

Даўжыня лаўкі 1 ... .

Вышыня алешыны 20 ... .

Даўжыня лінейкі 25 ... .

Рост дзяўчынкі 14 ... .

**10.** Лера знайшла суму двух лікаў, якія стаяць побач, і атрымала 15. Якія лікі склала Лера?

**11.** Надзя знайшла розніцу двух лікаў, якія стаяць побач. Чаму роўная гэта розніца?

**12.** На ўзлётным полі было 28 самалётаў. Потым 8 самалётаў прыляцела, а 10 паляцела. Колькі самалётаў засталося на ўзлётным полі?

**13.** Купілі карункавую стужку і тасьму. Карункавай стужкі купілі 35 дм, што на 12 дм больш, чым тасьмы. Колькі ўсяго дэцыметраў карункавай стужкі і тасьмы купілі?

**14.** У класе 23 вучні. У футбольнай секцыі займаюцца 8 вучняў, у музычнай школе — 7 вучняў, астатнія вучні займаюцца ў секцыі плавання. Колькі дзяцей вучацца плаваць?

**15.** У майстэрні 16 слесараў, а токараў на 2 больш. Колькі слесараў і токараў у майстэрні?

**16.** Складзі і рашы задачу.

Было — 46 кг ... .
Прадалі — ?
Засталося — 12 кг і 13 кг ... .

**17.** Растлумач выразы.
У першай каробцы 15 фламастараў, у другой — 20 фламастараў, а ў трэцяй — на 20 менш, чым у першай і другой разам.

20 – 15 20 + 15 (20 + 15) – 20

**18.** Тата ў 6 г 15 мін выехаў на машыне з Мінска ў Ліду. Ён ехаў да Ліды 2 г. У Лідзе тата быў 6 г, а потым 2 г ехаў з Ліды ў Мінск. Колькі часу таты не было ў Мінску?

**19.** Які гадзіннік паказвае час, калі тата выехаў з Мінска? Прыехаў у Ліду? Выехаў з Ліды?




**20.** Знайдзі даўжыню ломанай.



**21.** Назаві фігуры. Знайдзі іх перыметры.







**22.** Памеры трохвугольніка дадзены на рысунку. На колькі метраў даўжыня большай стараны трохвугольніка меншая за суму даўжынь дзвюх другіх старон?





37 + 23 = ?












Разважай так:

1. **Пішу** дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. **Складваю адзінкі.** Атрымліваю 10. Гэта 1 дзясятак. Пішу пад адзінкамі 0, а адзін дзясятак запомню і дадам да дзясяткаў.
3. **Складваю дзясяткі.** Атрымліваю 5. Дадам яшчэ адзін дзясятак, атрымліваю 6. Пішу 6 пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 60.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

34 + 26 78 + 12 35 + 55 21 + 59

**2.** Паспрабуй спачатку выканаць складанне, пачынаючы з адзінак, а потым пачынаючы з дзясяткаў. У якім парадку зручней выконваць вылічэнні? Чаму?



3. Максім скочыў у даўжыню на 9 дм, а Рома — на 85 см. На колькі сантыметраў далей скочыў Максім? Які будзе вынік у Ромы, калі ён палепшыць яго на 10 см?

4. Растлумач выразы.
На хакейны матч прыйшлі 20 дзяўчынак і 15 хлопчыкаў з 2 «А» класа і 12 дзяўчынак і 22 хлопчыкі з 2 «Б» класа.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 20 + 15 | 12 + 22 | 20 + 12 | 15 + 22 |
| 20 – 15 | 22 – 12 | 20 – 12 | 22 – 15 |

5. Малыш і Карлсан вырашылі склеіць прамавугольнік з квадратаў. Яны ўзялі 5 квадратаў са стараной 6 см і склеілі прамавугольнік. Шырыня палоскі склейвання 1 см. Знайдзі перыметр прамавугольніка.



Чаму пры складанні лікаў 52 і 18 у слупок вылічэнні пачынаюць з адзінак?



1. Запішы ў слупок. Вылічы.
54 + 26 28 + 32 76 – 34 68 – 56

2. У пакеце было 35 грэцкіх арэхаў. Пасля таго як частку арэхаў з’елі, у пакеце засталося 8 арэхаў. Колькі грэцкіх арэхаў з’елі?



$37 + 63 = ?$




Разважай так:
1. Пішу ... .
2. Складваю адзінкі ... .
3. Складваю дзясяткі ... .
4. Чытаю адказ — 100.




**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

47 + 53 84 + 16 69 + 31 35 + 65

**2.** Параўнай.

34 + 0 ? 35 – 1 39 + 16 ? 56 – 0

**3.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў роўнасці.






4. Рабочыя павінны замасціць 23 м дарожкі чырвонай пліткай і 22 м — жоўтай. Да абеду яны замасцілі пліткай 20 м. Колькі метраў дарожкі засталося замасціць пліткай?

5. Купілі 57 білетаў у цырк, у кіно і ў тэатр. Колькі купілі білетаў у тэатр, калі ў кіно купілі 20 білетаў, а ў цырк — 16 білетаў?

6. Рыта нарысавала квадраты. Іх было больш, чым канцоў у дзвюх палачак, але менш, чым канцоў у дзвюх з палавінай палачак. Колькі квадратаў нарысавала Рыта?

7. На якія дзве групы можна раздзяліць фігуры?



? Патрэбна 74 павялічыць на 26. Як выканаць вылічэнні вусна? У слупок?



1. Запішы ў слупок. Вылічы.

68 + 32    45 + 55    21 + 79    36 + 64

2. У магазіне было 47 футбольных і валейбольных мячоў. Прадалі 13 футбольных мячоў і столькі ж валейбольных. Колькі мячоў засталося?






37 + 25 = ?




Разважай так:

1. **Пішу** ... .
2. **Складваю адзінкі.** Атрымліваю 12. У ліку 12 — 1 дзясятак і 2 адзінкі. Пішу пад адзінкамі 2, а адзін дзясятак запомню і дадам да дзясяткаў.
3. **Складваю дзясяткі.** Атрымліваю 5. Дадаю яшчэ ... дзясятак, атрымліваю ... . Пішу ... пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 62.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 54 + 29 | 18 + 23 | 25 + 75 | 48 – 17 |
| 29 + 36 | 35 + 57 | 47 + 33 | 57 – 35 |

**2.** Параўнай.

| | |
|---|---|
| 74 см ? 7 дм 3 см | 9 дм 9 см ? 1 м |
| 38 см ? 38 дм | 5 дм 4 см ? 4 дм 5 см |
| 9 дм ? 1 м | 90 см ? 9 дм |

**3.** На свяце ў парку было 45 паветраных шарыкаў. Адляцела 5 сініх і некалькі зялёных шарыкаў. Засталося 32 шарыкі. Колькі зялёных шарыкаў адляцела?

**4.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
У гербарыі ў Аліны 30 раслін, у Іны — 12, а ў Валі — на 8 менш, чым у Аліны і Іны разам.

**5.** Пецconfiguration зрабіў фотаздымак вежы. Знайдзі гэты фотаздымак.




Як скласці ў слупок лікі 35 і 29?



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
16 + 61    17 + 53    35 + 48    66 + 25

**2.** Іван 30 мін рабіў дамашняе заданне, потым 1 г дапамагаў бабулі, а затым 10 мін глядзеў мультфільм. Колькі часу Іван патраціў на ўсе гэтыя заняткі?



Растлумач, як выканалі складанне трох лікаў у слупок.







**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

50 + 12 + 24 24 + 16 + 35 31 + 27 + 42
34 + 42 + 21 63 + 15 + 12 26 + 13 + 41

**2.** Параўнай.

25 + 15 ? 50 – 15
19 – 12 ? 68 – 60
100 – 1 ? 19 + 80
31 + 32 ? 60 + 3
38 + 14 ? 60 – 7
34 + 6 ? 48 – 9

**3.** Якія лікі прапушчаны? Састаў роўнасці.







**4.** Устаў прапушчаныя знакі дзеянняў, каб роўнасці былі правільныя.

73 ? 7 ? 8 = 88 87 ? 28 ? 22 = 37

5. У трох веснавых месяцах усяго 92 дні. У сакавіку і маі па 31 дні. Колькі дзён у красавіку?

6. У папцы было 50 аркушаў жоўтай і сіняй паперы. Узялі 12 лістоў жоўтай і некалькі лістоў сіняй паперы. Засталося 17 лістоў паперы. Колькі лістоў сіняй паперы ўзялі?

7. Запішы ў парадку нарастання.

75 мін | 1 г 10 мін | 60 мін | 10 мін

8. Вымерай даўжыню і шырыню прамавугольніка. Знайдзі яго перыметр.



9. Віцю трэба начарціць адрэзак, даўжыня якога роўная суме даўжынь двух старон прамавугольніка з задання 8. Якую даўжыню можа мець гэты адрэзак?


Як выканаць складанне лікаў 22, 23 і 24 у слупок?


1. Запішы ў слупок. Вылічы.
23 + 21 + 25 46 + 35 + 12

2. У адной бляшаначцы 32 вітамінкі, што на 12 вітамінак больш, чым у другой бляшаначцы. Колькі ўсяго вітамінак у гэтых бляшанках?



Чым падобныя запісы злева і справа?
Чым яны адрозніваюцца?

| Роўнасці | Няроўнасці |
|---|---|
| 27 = 27 | 27 < 31 |
| 12 + 9 = 21 | 12 + 9 > 20 |
| 25 – 6 = 18 + 1 | 25 – 6 > 18 + 0 |

Чым падобныя няроўнасці, якія запісаны злева і справа? Чым адрозніваюцца?

| Правільныя няроўнасці | Няправільныя няроўнасці |
|---|---|
| 30 < 31 | 30 > 31 |
| 35 + 4 < 60 | 35 + 4 > 60 |
| 50 > 100 – 90 | 50 < 100 – 90 |

**1.** Прачытай выраз, роўнасць, няроўнасць.

64 = 60 + 4 35 + 20 10 < 64 – 50

**2.** Выпішы правільныя няроўнасці.

34 < 49 10 > 25 – 20 62 + 4 < 60

72 + (6 + 2) > 72 36 – (3 + 3) < 10 7 > 7

**3.** Параўнай.

51 – 18 ? 51 – 19 15 + 17 + 31 ? 31 + 17 + 15

38 + 40 ? 38 + 41 (62 + 9) + 13 ? (13 + 9) + 61

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб няроўнасці былі правільныя. Колькі такіх лікаў можна падабраць для кожнай няроўнасці? Запішы няроўнасці з найменшым са знойдзеных лікаў.

? + 1 < 5        7 − ? > 3        10 − ? > 5

**5.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы. Адзін клас сабраў 46 кг макулатуры. Колькі кілаграмаў макулатуры сабраў другі клас, калі разам яны сабралі 92 кг?

**6.** Тата і Мацвей рабілі рамонт 2 тыдні і яшчэ 2 дні. Колькі дзён яны рабілі рамонт?

**7.** У пакеце 3 чырвоныя і 3 жоўтыя яблыкі. Колькі яблыкаў трэба ўзяць з заплюшчанымі вачыма з пакета, каб абавязкова хаця б адзін яблык быў чырвоны?



Састаў правільныя роўнасці з лікаў 15, 2 і 10.



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

100 – (35 + 17)        (41 – 12) + 23

**2.** Колькі мінут хлопчык катаўся на веласіпедзе, калі да абеду ён катаўся 20 мін, а пасля абеду — на 20 мін больш?






Разважай так:

1. **Пішу** дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. **Аднімаю адзінкі.** Ад 0 нельга адняць 6. Вазьму 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. Каб не забыць, пастаўлю кропку над разрадам дзясяткаў. Дзясятак — гэта 10 адзінак. Ад 10 аднімаю 6, атрымліваю 4. Пішу 4 пад адзінкамі.
3. **Аднімаю дзясяткі.** Ад 4 дзясяткаў мы ўзялі 1 дзясятак. Засталося 3 дзясяткі. Ад 3 аднімаю 2, атрымліваю 1 дзясятак. Пішу 1 пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 14.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

50 – 34    30 – 17    90 – 25    50 – 23

**2.** Паспрабуй спачатку выканаць адніманне, пачынаючы з адзінак, а потым пачынаючы з дзясяткаў. У якім парадку зручней выконваць вылічэнні? Чаму?



**3.** Запішы ў слупок. Вылічы.

31 + 46 + 23        23 + 19 + 11

**4.** У сталовай было 60 пакетаў з грэцкімі крупамі і рысам. Пакетаў з грэцкімі крупамі было 22. Якіх пакетаў было больш — з грэцкімі крупамі ці рысам? На колькі больш?

**5.** На вуліцы Лясной было 24 дамы. Гэта на 16 дамоў менш, чым на вуліцы Сонечнай. Колькі дамоў было на вуліцы Паркавай, калі на ёй дамоў на 8 больш, чым на Сонечнай?

**6.** У кожным радзе выберы лікі, якія падыходзяць, і складзі правільныя роўнасці і няроўнасці.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 25 | 29 | 34 | 38 | ? + ? = ? + ? |
| 24 | 37 | 50 | 63 | ? – ? > ? – ? |
| 9 | 18 | 19 | 46 | ? – ? < ? + ? |

**?** Чаму пры адніманні лікаў 70 і 16 у слупок зручней пачынаць вылічэнні з адзінак?



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

60 – 34    70 – 21    80 – 49    90 – 64

**2.** У прэзентацыі спачатку было 17 слайдаў. Потым зрабілі яшчэ 13 слайдаў, а 11 слайдаў выдалілі. Колькі слайдаў стала ў прэзентацыі?



Разважай так:

1. **Пішу** ... .
2. **Аднімаю адзінкі.** Ад 0 нельга адняць 6 адзінак. Трэба ўзяць 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. У разрадзе дзясяткаў 0 дзясяткаў. Вазьму 1 сотню з разраду соцень. 1 сотня — гэта 10 дзясяткаў. Вазьму 1 дзясятак і перанясу ў разрад адзінак. Ад 10 адзінак аднімаю 6 адзінак, атрымліваю ... . У разрадзе дзясяткаў засталося 9 дзясяткаў.
3. **Аднімаю дзясяткі** ... .
4. **Чытаю** адказ — 74.



**1.** Вылічы.



**2.** Запішы ў слупок. Вылічы.

48 + 37    72 + 28    56 – 31    80 – 42

**3.** Устаў прапушчаныя знакі дзеянняў так, каб няроўнасці былі правільныя.

80 ? 20 ? 40 = 100    71 ? 1 ? 35 = 35

**4.** У пякарні для выпечкі кексаў трэба ўзяць 32 кг мукі, а для выпечкі ватрушак — на 12 кг больш. Ці хопіць 70 кг мукі для выпечкі кексаў і ватрушак?

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.
Другі адрэзак на 3 см даўжэйшы за трэці і на 1 см даўжэйшы за першы. Знайдзі даўжыню першага адрэзка, калі даўжыня трэцяга 5 см.







**6.** Начарці ломаную, даўжыні звёнаў якой роўныя даўжыням адрэзкаў з задання 5.

**7.** Дапоўні запісы адзінкамі даўжыні, якія падыходзяць.

100 ... = 1 ...　　　1 ... = 10 ...
100 ... = 10 ...　　　10 ... = 1 ...


Як ад ліку 100 адняць лік 77 у слупок?



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
100 – 35　　　100 – 62　　　47 + 45

**2.** У аўтобусе 56 месцаў. У касе прадалі 17 дзіцячых і 35 дарослых білетаў на гэты аўтобус. Колькі білетаў засталося прадаць?






Разважай так:

1. **Пішу** дзясяткі пад дзясяткамі, адзінкі пад адзінкамі.
2. **Аднімаю адзінкі.** Ад 2 нельга адняць 6. Вазьму 1 дзясятак з разраду дзясяткаў. Каб не забыць, пастаўлю кропку над разрадам дзясяткаў. 1 дзясятак і 2 адзінкі — гэта 12 адзінак. Ад 12 аднімаю 6, атрымліваю 6 адзінак. Пішу 6 пад адзінкамі.
3. **Аднімаю дзясяткі.** Ад 4 дзясяткаў мы ўзялі 1 дзясятак. Засталося 3 дзясяткі. Ад 3 аднімаю 2, атрымліваю 1 дзясятак. Пішу 1 пад дзясяткамі.
4. **Чытаю** адказ — 16.

**1.** Вылічы.

75 – 17     33 – 29     51 – 36     44 – 18

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

38 + ? = 44     55 – ? = 29     71 = 84 – ?

52 = ? + 13     ? + 52 = 64     ? – 36 = 38

**3.** Вылічы.

15 + 14 + 25      12 + 67 + 18
64 + 17 + 16      31 + 19 + 29

**4.** Знайдзі перыметр квадрата, даўжыня стараны якога роўная 15 см. Вразі рэзультат у дэцыметрах.

**5.** Выберы схему, якая падыходзіць да задачы. Рашы задачу.

Тата прайшоў 30 м ад дома да альтанкі. Потым 40 м ад альтанкі да калодзежа, а затым яшчэ 30 м ад калодзежа да дома. Колькі ўсяго метраў прайшоў тата?










Як выканаць складанне лікаў 32 і 14 у слупок?



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

71 – 23      36 – 19      62 – 44      82 – 76

**2.** У дзвюх кнігах 100 старонак. У адной з іх 63 старонкі. На колькі старонак у адной кнізе больш, чым у другой?

**1.** Выпішы ў адзін слупок выразы, значэнні якіх роўныя 47. У другі слупок выпішы выразы, значэнні якіх роўныя 78.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 13 + 40 | 43 + 4 | 8 + 70 | 100 – 47 |
| 90 – 12 | 79 – 1 | 7 + 40 | 100 – 53 |

**2.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 57 + 39 | 67 – 45 | 92 – 73 | 100 – 81 |
| 29 + 17 | 80 – 54 | 48 + 25 | 100 – 68 |

**3.** Вылічы.

| | |
|---|---|
| 41 см + 5 дм | 6 дм 6 см – 6 дм |
| 10 дм – 80 см | 5 дм 3 см + 4 см |
| 98 см – 7 дм | 1 м – 7 дм |

**4.** Скласці выразы па схемах. Вылічы.







**5.** Скласці выразы. Знайдзі іх значэнні.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 53 + 8 | 71 | 100 – 27 | 17 |
| Складаемае | 39 | 76 – 47 | 27 | 34 + 49 |

**6.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.
Да саставу таварнага цягніка прычапілі 20 вагонаў, і ў ім стала 57 вагонаў. Колькі вагонаў было ў саставе?

**7.** Настаўніцы трэба праверыць 24 сшыткі па матэматыцы і столькі ж сшыткаў па беларускай мове. Яна ўжо праверыла некалькі сшыткаў. Ёй засталося праверыць 18 сшыткаў. Колькі сшыткаў праверыла настаўніца?

**8.** Начарці два адрэзкі даўжынёй 10 см.
- Падзялі першы адрэзак на адрэзкі даўжынёй па 2 см. Колькі адрэзкаў атрымалася?
- Падзялі другі адрэзак на дзве часткі так, каб іх даўжыні былі роўныя. Знайдзі даўжыню кожнай з гэтых частак.



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
36 + 48     47 + 27     63 – 38     75 – 26

**2.** У ансамбль народных танцаў запісаліся 27 дзяцей, а ў хор — на 15 дзяцей больш. Колькі ўсяго дзяцей сталі займацца танцамі і спевамі?

# Множанне і дзяленне



Колькі ўсяго кніг на кожным малюнку?

1




**2 + 2 + 2**

2




**2 + 2 + 2 + 1**

Складанне аднолькавых складаемых можна замяніць новым дзеяннем — **множаннем**.
Знак множання — кропка (·).

$$\mathbf{2 + 2 + 2 = 6}$$
$$\mathbf{2 \cdot 3 = 6}$$

По 2 узяць 3 разы, атрымаецца 6.

2 памножыць на 3, атрымаецца 6.

**1.** Разгледзь малюнкі. Састаў роўнасці па ўзоры. Прачытай роўнасці.



$3 + 3 = 6$
$3 \cdot 2 = 6$

1



2





**2.** Замяні складанне множаннем.

| | | |
|---|---|---|
| 9 + 9 | 6 + 6 + 6 | 3 + 3 + 3 + 3 |
| 4 + 4 | 7 + 7 + 7 | 5 + 5 + 5 + 5 |

**3.** Знайдзі значэнне выразаў па ўзоры.

$4 \cdot 3 = 4 + 4 + 4$
$4 \cdot 3 = 12$

$5 \cdot 3$ $\quad$ $3 \cdot 5$
$6 \cdot 2$ $\quad$ $2 \cdot 5$

**4.** Складзі пытанне, каб задача рашалася ў два дзеянні. Рашы задачу.
У дзвюх залах было 86 крэсел. У адной з іх 36 крэсел.

**5.** Лена купіла 25 сшыткаў, Жэня — на 12 сшыткаў менш, чым Лена. Колькі сшыткаў купіў Коля, калі ён купіў на 5 сшыткаў больш, чым Жэня?

**6.** У казачнага ката 2 пярэднія лапы, 2 заднія, 2 правыя і 2 левыя. Колькі лап у казачнага ката?

**?** У якім выразе можна замяніць складанне множаннем?

$3 + 1 + 2 + 4$ $\quad$ $3 + 3 + 3 + 3$



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
$56 + 29$ $\quad$ $51 - 35$ $\quad$ $34 + 28 + 12$

**2.** Ганчар зрабіў для выстаўкі 12 збаноў і 15 ваз. На выстаўцы 7 яго вырабаў было прададзена. Колькі вырабаў засталося?



У кожным пенале па 2 ручкі.
Колькі ручак у трох пеналах?



| Ручак у пенале | Колькасць пеналаў | Усяго ручак |
|---|---|---|
| 2 | 3 | ? |

Разважай так:
Для рашэння задачы патрэбна па два ўзяць **тры** разы. Значыць, трэба 2 памножыць на 3.

**2 · 3 = 6 (р.)**

**1.** У альбоме 10 старонак. Колькі старонак у двух такіх альбомах?




**2.** Прачытай выразы. Знайдзі значэнні выразаў, замяніўшы множанне складаннем.
8 · 4    6 · 5    0 · 6    12 · 3

**3.** Параўнай.
2 + 2 + 2 ? 2 · 3
4 + 4 ? 4 · 3
3 + 3 + 3 ? 3 · 3
2 + 2 + 2 + 2 ? 2 · 3

**4.** Вылічы.

25 + 37    43 – 17    64 – 48
45 + 35    56 + 29    85 – 49

**5.** Вылічы.

25 см + 75 см    3 дм 4 см – 4 см + 6 дм 6 см
4 дм + 6 дм    1 дм 5 см + 7 дм 3 см + 2 см

**6.** У класе 6 дзяцей святкуюць дзень нараджэння вясной, столькі ж дзяцей — зімой. Усяго ў класе 24 вучні. Колькі дзяцей святкуюць дзень нараджэння ў іншыя поры года?

**7.** У Ані і Сярожы было пароўну сліў. Калі Аня з'ела 5 жоўтых сліў і 7 сініх, у яе засталося яшчэ 17 сліў. Колькі сліў было ў Сярожы?


Складзі задачу.





**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

7 · 2    6 · 3    4 · 4    13 · 2

**2.** На палубе карабля было 12 маракоў. Гэта на 2 маракоў больш, чым у каютах. Колькі ўсяго маракоў было на палубе і ў каютах?






**1.** Назаві множнікі і здабытак у кожнай роўнасці.

4 · 2 = 8 5 · 3 = 15 10 · 4 = 40

**2.** З лікаў 3, 4 і 5 састаў усе здабыткі, у якіх першы множнік меншы за другі множнік. Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

**3.** Параўнай.

5 + 5 ? 5 · 3 6 · 3 ? 6 + 6

4 · 3 ? 4 + 4 + 4 7 · 2 ? 7 + 7 + 7

**4.** Вылічы.

30 – (13 + 13) (32 + 32) – 59 37 + 12 + 51

60 – (20 + 20) (50 + 50) – 46 41 – 25 + 38

**5.** Запішы ў слупок. Вылічы.

80 – 52 33 + 38 77 – 19 63 + 16 + 21

**6.** Дапоўні ўмову задачы. Рашы задачу.
У трох бочках па ? л мёду. Колькі літраў мёду ва ўсіх бочках?




**7.** Колькі цукерак было ў каробцы, калі пасля таго, як Дзіма і Даша з'елі па 8 цукерак, у каробцы засталося 14 цукерак?

**8.** Складзі задачу, якая рашаецца так:

(25 + 25) – 12



**9.** Колькі існуе двухзначных лікаў, у запісе якіх ёсць хоць адна лічба 7?

? Назаві множнікі і здабытак.

13 · 2 = 26



**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.
39 + 22 85 – 19 17 + 18 + 19

**2.** У кожным кабінеце 5 камп'ютараў. Колькі камп'ютараў у трох такіх кабінетах?



Колькі разоў па 4 кубікі змяшчаецца ў 8 кубіках?





Для таго каб даведацца, колькі разоў па чатыры змяшчаецца ў васьмі, прымяняюць новае дзеянне — **дзяленне**.

Знак дзялення — двукроп'е (:).

**8 : 4 = 2**

Восем раздзяліць на чатыры, атрымаецца два.

**1.** Колькі разоў па 5 змяшчаецца ў 10?
Колькі разоў па 2 змяшчаецца ў 10?

1 

10 : 5 = ?

2 

10 : 2 = ?

**2.** Састаў і рашы задачу.



? марак

**3.** Састаў роўнасці па малюнках.




**4.** Састаў роўнасці і знайдзі іх значэнні.






**5.** Для таго каб пашыць шторы, купілі 4 кавалкі тканіны. Даўжыня кожнага кавалка 5 м. Колькі ўсяго метраў тканіны купілі?

**6.** Кастусь узяў з пакета 12 фінікаў. Алеся таксама ўзяла некалькі фінікаў. У пакеце засталося 20 фінікаў. Колькі фінікаў узяла Алеся, калі спачатку ў пакеце было 54 фінікі?

**?** Прачытай роўнасць.

15 : 5 = 3



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

(55 – 19) + 15 60 – (16 + 28)

**2.** На пчальніку было 18 вулляў, затым паставілі яшчэ 6 вулляў. Колькі вулляў трэба яшчэ паставіць, каб іх стала 32?



Было 6 мандарынаў. Дзяўчынкам раздалі па 2 мандарыны кожнай. Колькі дзяўчынак атрымала мандарыны?



Разважай так:
У задачы трэба даведацца, колькі разоў па два змяшчаецца ў **шасці**. Значыць, патрэбна 6 раздзяліць на 2.

**6 : 2 = 3 (д.)**

**1.** Знайдзі адказ задачы з дапамогай малюнка. Запішы рашэнне.
Мама расставіла 10 руж у вазы, па 5 руж у кожную вазу. Колькі ваз спатрэбілася?



**2.** Састаў роўнасці па ўзоры.

6 : 2 = 3

1 ●●●●●●

2 ●●●●●●●●

3 ●●●●●●●●

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 14 – 2 + 14 | 26 + 27 – 14 | 42 – (8 + 16) |
| 12 + 9 – 16 | 12 + 19 – 14 | 55 + (23 – 14) |

**4.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$$+\begin{array}{r}2*\\ *3\\ \hline 89\end{array}\qquad +\begin{array}{r}*7\\ 5*\\ \hline 98\end{array}\qquad -\begin{array}{r}7*\\ *2\\ \hline 34\end{array}\qquad -\begin{array}{r}*4\\ 2*\\ \hline 71\end{array}$$

**5.** На амлет для сям'і патрэбна ўзяць 4 яйкі. Колькі яек спатрэбіцца для трох такіх амлетаў?

**6.** Даўжыня сіняга адрэзка 1 дм 2 см. Даўжыня чырвонага адрэзка на 4 см меншая за даўжыню сіняга, а зялёнага — на 2 см большая за даўжыню чырвонага. Знайдзі даўжыню зялёнага адрэзка.

**7.** Начарці чырвоны і зялёны адрэзкі з задачы 6. Раздзялі кожны з іх на адрэзкі па 2 см кожны. Колькі адрэзкаў атрымалася?

? Выберы выраз, які падыходзіць да рысунка.



1) 8 : 2 2) 6 : 2



**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

$5 \cdot 2$ $6 \cdot 3$ $7 \cdot 3$ $8 \cdot 2$

**2.** У ломанай тры звяны. Даўжыня першага звяна ломанай 3 дм. Даўжыня другога звяна на 3 см меншая. Даўжыня трэцяга — такая ж, як даўжыня другога звяна. Знайдзі даўжыню ломанай.



Было 6 мандарынаў. Іх раздалі 3 дзецям, пароўну кожнаму дзіцяці. Колькі мандарынаў атрымала кожнае дзіця?



Разважай так:
Бяру 3 мандарыны і раздаю па аднаму кожнаму дзіцяці. Потым бяру яшчэ 3 мандарыны і раздаю па аднаму кожнаму дзіцяці.
У задачы патрэбна даведацца, колькі разоў па тры змяшчаецца ў **шасці**. Значыць, патрэбна 6 раздзяліць на 3.

**6 : 3 = 2 (м.)**

**1.** Рашы задачы з дапамогай малюнка. Параўнай задачы.

Было 8 салдацікаў. Іх раздалі 2 хлопчыкам пароўну. Колькі салдацікаў атрымаў кожны?

Было 8 салдацікаў. Іх раздалі па 2 кожнаму хлопчыку пароўну. Колькі хлопчыкаў атрымала салдацікаў?



**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 27 + 44 | 77 + 23 | 70 – 13 | 53 – 39 |
| 39 + 21 | 52 + 48 | 90 – 78 | 61 – 25 |

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

48 + ? = 90 73 – ? = 58 41 = 78 – ?

? + 25 = 66 ? + 34 = 81 28 = ? – 72

**4.** Складзі і рашы задачы.

| Ёмістасць збана (л) | Колькасць збаноў (шт.) | Ёмістасць усіх збаноў (л) |
|---|---|---|
| 3 | 4 | ? |
| 3 | ? | 12 |
| ? | 4 | 12 |

**5.** На першым стэндзе было 15 плакатаў. На другім стэндзе было на 6 плакатаў больш, чым на першым. На трэцім стэндзе — на 5 плакатаў менш, чым на другім. Колькі плакатаў на трэцім стэндзе?

? Як раздзяліць 8 арэхаў пароўну паміж дзвюма дзяўчынкамі?



**1.** Вылічы, замяніўшы множанне складаннем.

$6 \cdot 2$ $5 \cdot 3$ $6 \cdot 3$ $5 \cdot 4$

**2.** Над ярам лятала 28 ластавак і некалькі стрыжоў. Прыляцела яшчэ 14 ластавак. Стала 60 птушак. Колькі было стрыжоў?






**1.** Назаві дзялімае, дзельнік і дзель.

6 : 2 = 3 8 : 2 = 4 10 : 5 = 2 9 : 3 = 3

**2.** Прачытай выразы. Запішы ў адзін слупок усе здабыткі, а ў другі слупок — усе дзелі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3 · 4 | 10 : 2 | 13 · 2 | 40 : 4 | 9 · 3 |
| 15 : 5 | 20 · 4 | 18 : 3 | 6 : 3 | 15 · 5 |

**3.** Вылічы з дапамогай малюнка.



6 : 2
6 : 3



8 : 2
8 : 4



10 : 2
10 : 5

**4.** Запішы ў слупок. Вылічы.

57 + 19 61 – 24 47 + 37
32 + 48 60 – 43 85 – 49

5. У машыне змяшчаецца 4 пасажыры і вадзіцель. Колькі чалавек змяшчаецца ў двух такіх машынах?

6. Рашы задачу з дапамогай малюнка.
Мама раздзяліла 9 сушак пароўну паміж трыма дзецьмі. Колькі сушак атрымала кожнае дзіця?

7. Было прададзена 2 скрынкі чарэшні, па 24 кг у кожнай. Засталося прадаць столькі кілаграмаў чарэшні, колькі было прададзена. Колькі кілаграмаў чарэшні было спачатку?

8. Знайдзі перыметр кожнай фігуры.




? Назаві дзялімае, дзельнік і дзель.

20 : 5 = 4



1. Знайдзі значэнні выразаў, замяніўшы здабытак сумай.

$10 \cdot 3$ $15 \cdot 3$ $25 \cdot 2$ $50 \cdot 2$

2. Згатавалі 14 л кампоту і разлілі ў 7 слоікаў, пароўну ў кожны слоік. Колькі літраў кампоту налілі ў кожны слоік?

**1.** Складзі па малюнку задачы на множанне і дзяленне.



**2.** Рашы задачы з дапамогай малюнка. Параўнай задачы.

Было 8 мячоў. Іх раздалі хлопчыкам па 2 мячы кожнаму. Колькі хлопчыкаў атрымала мячы?

Было 8 мячоў. Іх раздалі чатыром хлопчыкам пароўну. Колькі мячоў атрымаў кожны хлопчык?

**3.** Састаў роўнасці па ўзоры. Растлумач.

|||  |||

$3 \cdot 2 = 6$
$6 : 3 = 2$
$6 : 2 = 3$

1) ||  ||  ||  ||

2) ||||  ||||

3) |||||  |||||

4) ||  ||  ||

**4.** Пабудуй схемы па ўзоры. Вылічы.

||  ||  ||  ←  ||

$2 \cdot 3 + 2 = 2 \cdot 4 = 8$

$4 \cdot 2 + 4$ $\quad$ $3 \cdot 3 + 3$
$2 \cdot 4 + 2$ $\quad$ $5 \cdot 2 + 5$

**5.** Знайдзі значэнне другога выразу кожнага слупка, выкарыстоўваючы значэнне першага выразу. Растлумач.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 4 = 8$ | $10 \cdot 2 = 20$ | $12 \cdot 5 = 60$ |
| $2 \cdot 5 =$ ? | $10 \cdot 3 =$ ? | $12 \cdot 4 =$ ? |

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

64 + ? = 100 100 – ? = 27 22 = 55 – ?

? – 36 = 64 ? + 38 = 100 70 = ? + 5

**7.** За кожную гадзіну смоўж прапаўзаў па сцяжынцы 23 см. Ён поўз 3 гадзіны. Колькі сантыметраў прапоўз смоўж за гэты час?






**8.** Няхай смоўж пасля 3 гадзін руху павярнуў назад і за чацвёртую гадзіну прапоўз яшчэ 23 см. Колькі сантыметраў трэба яшчэ прапаўзці смаўжу, каб вярнуцца на ранейшае месца?



**1.** Вылічы з дапамогай схемы.



$2 \cdot 5$ $10 : 2$ $10 : 5$

**2.** Дзесяць турыстаў селі па два ў кожную лодку. Колькі спатрэбіцца лодак?



$\underline{2 \cdot 2 = ?}$

$2 + 2$



$\underline{2 \cdot 3 = ?}$

$2 \cdot 2 + 2$



Растлумач роўнасці. Запомні.

$2 \cdot 2 = 4$ 

$2 \cdot 3 = 6$ 

$2 \cdot 4 = 8$ 

$2 \cdot 5 = 10$ 

**1.** Састаў роўнасці. Знайдзі іх значэнні.

| Множнік | 2 | 2 | 2 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 5 | 4 | 3 |

**2.** Параўнай.

$2 + 2 + 2 + 2 + 2$ ? $2 \cdot 4$ $2 \cdot 3$ ? $2 \cdot 4$

$2 + 2 + 2 + 2 + 2$ ? $2 \cdot 6$ $2 \cdot 5$ ? $2 \cdot 4$

**3.** Пабудуй схемы. Вылічы.

$2 \cdot 3 - 2$ $2 \cdot 4 - 2$ $2 \cdot 5 - 2$

**4.** Складзі і рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.

| Персікаў на адной талерцы | Колькасць талерак | Усяго персікаў |
|---|---|---|
| 2 | 5 | ? |

**5.** Таўшчыня стоса з аднолькавых кніг 8 см. Таўшчыня кожнай кнігі 2 см. Колькі кніг у стосе?




**6.** Наташа і Юра збіралі наклейкі. У іх разам на 30 наклеек больш, чым у Наташы, і на 22 наклейкі больш, чым у Юры. Колькі наклеек у іх разам? У каго з дзяцей наклеек больш і на колькі больш?

**7.** Устаў прапушчаныя лікі.

$$+\begin{array}{r}4*\\ *7\\ \hline 90\end{array}\qquad +\begin{array}{r}*3\\ 2*\\ \hline 51\end{array}\qquad -\begin{array}{r}4*\\ *6\\ \hline 14\end{array}\qquad -\begin{array}{r}*2\\ 3*\\ \hline 47\end{array}$$

**?** Значэнне якога выразу большае? На колькі большае?

$2 \cdot 5$ $\qquad$ $2 \cdot 4$



**1.** Вылічы.

$2 \cdot 4 + 2 \qquad 2 \cdot 3 + 2 \qquad 2 \cdot 2 - 2 \qquad 2 \cdot 5 + 2$

**2.** Прынеслі 2 вядры вады, па 10 л у кожным вядры, і яшчэ 13 л. Колькі ўсяго літраў вады прынеслі?



$\frac{2 \cdot 6 = ?}{2 \cdot 5 + 2}$



$\frac{2 \cdot 7 = ?}{2 \cdot 6 + 2}$



Растлумач роўнасці. Запомні.

$2 \cdot 6 = 12$



$2 \cdot 7 = 14$



$2 \cdot 8 = 16$



$2 \cdot 9 = 18$



**1.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

| Множнік | 2 | 2 | 2 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 7 | 9 | 6 | 8 |

**2.** Састаў роўнасці па схемах і знайдзі іх значэнні.










**3.** За кожную гадзіну тата папраўляў па 3 м плота. Колькі метраў плота паправіць тата за 4 гадзіны?

**4.** Пабудуй схему. Запішы рашэнне задачы.
Для таго каб зрабіць шпакоўні, узялі 12 дошчачак. З іх зрабілі 2 аднолькавыя шпакоўні. Колькі дошчачак спатрэбілася для кожнай шпакоўні?

**5.** Фільм пра жывёл ішоў 25 мін, а рэкламны ролік — на 20 мін менш. Колькі часу патраціў тата на іх прагляд?

**6.** Пеця зрабіў фотаздымак вежы зверху. Знайдзі гэты фотаздымак.




На колькі значэнне выразу $2 \cdot 6$ большае, чым значэнне выразу $2 \cdot 5$?



**1.** Вылічы.
$2 \cdot 7 + 2$ $2 \cdot 6 - 2$ $2 \cdot 8 + 2$ $2 \cdot 9 - 2$

**2.** Колькі колаў у пяці двухколавых веласіпедаў?



Колькі ўсяго алоўкаў?

  

У кожнай каробцы па 2 алоўкі.
$2 + 2 + 2 = 6$
$2 \cdot 3 = 6$

Усяго 3 сінія і 3 чырвоныя алоўкі.
$3 + 3 = 6$
$3 \cdot 2 = 6$

**Перамяшчальная ўласцівасць множання:**

$2 \cdot 3 = 3 \cdot 2$

Ад перастаноўкі множнікаў здабытак не змяняецца.

**1.** Састаў роўнасці па ўзоры.

$3 \cdot 5 = 15$
$5 \cdot 3 = 15$



1 

2 

**2.** Параўнай.

| | | |
|---|---|---|
| 2 · 3 ? 3 · 2 | 2 · 7 ? 7 · 3 | 5 · 2 ? 2 + 5 |
| 2 · 8 ? 8 · 2 | 5 · 3 ? 4 · 5 | 3 · 4 ? 4 + 3 |

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 2 · 6 – 7 | 5 · 2 – 10 | 2 · 9 + 34 |
| 6 · 2 + 8 | 2 · 5 + 25 | 9 · 2 + 44 |

4. Каб пашыць сукенку, патрэбна купіць 2 м тканіны. Колькі тканіны патрэбна купіць, каб пашыць 7 такіх сукенак?

5. Лодцы неабходна праплыць 30 м, а потым вярнуцца тым жа шляхам назад. Лодка ўжо праплыла 20 м. Колькі метраў засталося плыць лодцы?

6. Складзі задачу са словамі «ехаў 25 мін», «ехаў на 5 мін больш», «ехаў на 10 мін менш». Рашы задачу.




? Закончы сказ: «Ад перастаноўкі множнікаў ...».



1. Вылічы.

$2 \cdot 6 + 88$ $2 \cdot 7 + 36$ $(100 - 47) + 29$

2. У беларускім алфавіце 32 літары. Гэта на 6 літар больш, чым у англійскім алфавіце. У іспанскім алфавіце на 1 літару больш, чым у англійскім. Колькі літар у іспанскім алфавіце?



Растлумач роўнасці. Запомні.

$4 \cdot 2 = ?$

$4 \cdot 2 = 2 \cdot 4$



$8 \cdot 2 = ?$

$8 \cdot 2 = 2 \cdot 8$



| | |
|---|---|
| 2 · 2 = 4 | |
| 2 · 3 = 6 | 3 · 2 = 6 |
| 2 · 4 = 8 | 4 · 2 = 8 |
| 2 · 5 = 10 | 5 · 2 = 10 |
| 2 · 6 = 12 | 6 · 2 = 12 |
| 2 · 7 = 14 | 7 · 2 = 14 |
| 2 · 8 = 16 | 8 · 2 = 16 |
| 2 · 9 = 18 | 9 · 2 = 18 |

**1.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

| Множнік | 7 | 2 | 6 | 2 |
|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 9 | 2 | 8 |

**2.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

2 · 5 = 10 5 · 2 = 10 10 : 2 = 5

**3.** Пабудуй схему. Рашы задачу.
Гаспадыня разліла 12 л малака ў слоікі, па 3 л у кожны слоік. Колькі слоікаў спатрэбілася?

**4.** На даху сядзела 37 галубоў. Колькі галубоў засталося на даху пасля таго, як паляцела 2 разы па 7 галубоў?

**5.** Вылічы.

80 – (24 – 16)      63 – (8 + 37)      (91 – 4) + 13
80 – 24 – 16      63 – 8 + 37      91 – (4 + 13)

**6.** Начарці такія фігуры ў сшытку. Раздзялі кожную фігуру з дапамогай адрэзка на два чатырохвугольнікі.



Прачытай выразы ў парадку нарастання іх значэнняў.

$6 \cdot 2$      $4 \cdot 2$      $8 \cdot 2$      $3 \cdot 2$



**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$5 \cdot 2 + 30$      $6 \cdot 2 + 3$      $9 \cdot 2 + 32$

**2.** У тыдні 7 дзён. Прайшло 2 тыдні і 5 дзён. Колькі ўсяго дзён прайшло?



Растлумач роўнасці.




$3 \cdot 2 = 6$

$6 : 3 = 2$

$6 : 2 = 3$

Калі здабытак двух множнікаў раздзяліць на адзін з іх, то атрымаецца другі множнік.

**1.** Састаў здабытак і дзелі па малюнках.

1


2


**2.** Састаў дзелі па ўзоры.

$7 \cdot 2 = 14$

$14 : 7 = 2$

$14 : 2 = 7$

$2 \cdot 6$ $\quad$ $2 \cdot 5$

$8 \cdot 2$ $\quad$ $9 \cdot 2$

**3.** Знайдзі прапушчаныя лікі. Састаў сумы.

| 50 | |
|---|---|
| 14 | ? |
| ? | 28 |
| 33 | ? |

| 90 | |
|---|---|
| 29 | ? |
| ? | 41 |
| 58 | ? |

| 100 | |
|---|---|
| ? | 28 |
| 45 | ? |
| ? | 62 |

**4.** За 1 дзень папугай можа вывучыць 2 словы. Колькі слоў можа вывучыць папугай за тыдзень? За два тыдні?

**5.** У аповесці 62 старонкі. Міла чытала аповесць 2 дні, па 12 старонак кожны дзень. Колькі старонак аповесці засталося прачытаць Міле?

**6.** Даўжыня прамавугольніка роўная 6 см. Гэта на 4 см больш, чым яго шырыня. Знайдзі перыметр прамавугольніка.

**7.** Знайдзі пары лікаў, рознасць якіх роўная 28, і запішы правільныя роўнасці.

24 12 28 52 0 40 80



Знайдзі значэнні выразаў.

$6 \cdot 2$ $12 : 6$ $12 : 2$



**1.** Вылічы.

$2 \cdot 4$ $4 \cdot 2$ $8 : 4$ $8 : 2$

**2.** Сыну, тату і дзядулю разам 100 гадоў. Сыну 4 гады, тату 30 гадоў. Колькі гадоў дзядулю?



Ц

$\underline{10 : 2 = ?}$
$5 \cdot 2 = 10$



$\underline{12 : 6 = ?}$
$2 \cdot 6 = 12$



Растлумач роўнасці. Запомні.

| | | |
|---|---|---|
| $2 \cdot 2 = 4$ | $4 : 2 = 2$ | |
| $2 \cdot 3 = 6$ | $6 : 2 = 3$ | $6 : 3 = 2$ |
| $2 \cdot 4 = 8$ | $8 : 2 = 4$ | $8 : 4 = 2$ |
| $2 \cdot 5 = 10$ | $10 : 2 = 5$ | $10 : 5 = 2$ |
| $2 \cdot 6 = 12$ | $12 : 2 = 6$ | $12 : 6 = 2$ |
| $2 \cdot 7 = 14$ | $14 : 2 = 7$ | $14 : 7 = 2$ |
| $2 \cdot 8 = 16$ | $16 : 2 = 8$ | $16 : 8 = 2$ |
| $2 \cdot 9 = 18$ | $18 : 2 = 9$ | $18 : 9 = 2$ |

**1.** Знайдзі дзелі лікаў.

| Дзялімае | 8 | 8 | 12 | 12 | 18 | 18 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзельнік | 2 | 4 | 2 | 6 | 2 | 9 |

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 75 – 39 | 100 – 54 | 52 + 19 | 39 + 39 |
| 14 + 68 | 100 – 64 | 62 + 19 | 86 – 43 |

**3.** Якія лікі прапушчаны?

Здабытак лікаў 2 і ? роўны дзелі лікаў 16 і 2.

Дзель лікаў 18 і 2 меншая за лік 16 на ?.

**4.** Выгадавалі 10 кустоў расады перцаў. Расаду пасадзілі на градку па 2 кусты ў кожным радзе. Колькі радоў атрымалася?

**5.** У дзіцячы сад прывезлі 40 кг мукі. З 7 кг мукі спяклі бліны. Столькі ж кілаграмаў мукі выкарысталі для піражкоў. Колькі кілаграмаў мукі засталося?

**6.** Начарці такую фігуру ў сшытку. Знайдзі перыметр фігуры.



Закончы сказы: «14 раздзяліць на 2, атрымаецца …», «16 раздзяліць на 8, атрымаецца …».



**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 10 : 5 | 2 · 8 | 16 : 2 |
| 6 : 2 | 9 · 2 | 18 : 9 |

**2.** У класе 9 парт. Колькі вучняў у класе, калі за кожнай партай сядзіць па 2 вучні?



$3 \cdot 4 = ?$

$3 \cdot 3 + 3$



$4 \cdot 3 = ?$

$4 \cdot 3 = 3 \cdot 4$



Растлумач роўнасці. Запомні.

| | |
|---|---|
| 3 · 3 = 9 | |
| 3 · 4 = 12 | 4 · 3 = 12 |
| 3 · 5 = 15 | 5 · 3 = 15 |
| 3 · 6 = 18 | 6 · 3 = 18 |
| 3 · 7 = 21 | 7 · 3 = 21 |
| 3 · 8 = 24 | 8 · 3 = 24 |
| 3 · 9 = 27 | 9 · 3 = 27 |

**1.** Знайдзі здабыткі лікаў.

| Множнік | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 | 3 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 2 | 5 | 3 | 4 | 9 | 7 |

**2.** Знайдзі значэнні выразаў у кожным слупку, выкарыстоўваючы ўжо вядомыя значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 3 · 2 = 6 | 3 · 6 = 18 | 3 · 15 = 45 |
| 3 · 3 = ? | 3 · 7 = ? | 3 · 16 = ? |
| 3 · 4 = ? | 3 · 8 = ? | 3 · 17 = ? |
| 3 · 5 = ? | 3 · 9 = ? | 3 · 18 = ? |

**3.** Параўнай.

$3 \cdot 5$ ? $5 \cdot 2$ $3 \cdot 4$ ? $6 \cdot 2$ $3 \cdot 2 + 3$ ? $3 \cdot 2$

$3 \cdot 2$ ? $2 \cdot 3$ $12 : 2$ ? $3 \cdot 4$ $2 \cdot 3 + 2$ ? $2 \cdot 4$

**4.** Колькі прамавугольнікаў і колькі кругоў патрэбна выразаць, каб атрымалася тры такія машынкі?



**5.** Садоўніку трэба пасадзіць 26 лілей і столькі ж гладыёлусаў. Ён ужо пасадзіў 19 кветак. Колькі кветак засталося пасадзіць садоўніку?

**6.** Якой даўжыні могуць быць стораны прамавугольніка, у якога перыметр роўны 16 см?

? Знайдзі значэнні выразаў.

$3 \cdot 4$ $4 \cdot 3$



**1.** Вылічы.

$3 \cdot 5$ $5 \cdot 3$ $3 \cdot 5 + 3$ $3 \cdot 5 - 3$

**2.** Даўжыня прамавугольніка 16 см, а шырыня 14 см. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

**1.** Знайдзі здабыткі лікаў.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Множнік | 3 | 3 | 6 | 8 | 3 | 5 |
| Множнік | 7 | 9 | 3 | 3 | 3 | 3 |

**2.** Вылічы.

$3 \cdot 8$ $\quad$ $3 \cdot 5$ $\quad$ $6 : 3$ $\quad$ $16 : 2 + 32$

$9 \cdot 3$ $\quad$ $6 \cdot 3$ $\quad$ $14 : 2$ $\quad$ $2 \cdot 9 + 50$

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

$3 \cdot ? = 15$ $\quad$ $16 : ? = 2$ $\quad$ $16 : 2 = 5 + ?$

$? \cdot 6 = 18$ $\quad$ $18 : ? = 9$ $\quad$ $18 : 2 = 7 + ?$

**4.** Вылічы.

$57 + 4 - 37$ $\quad$ $72 - (36 + 9)$ $\quad$ $3 \cdot 8 + 24$

$91 - 6 + 15$ $\quad$ $66 + (40 - 9)$ $\quad$ $6 \cdot 3 - 18$

**5.** Калі ў дзіцячы надзіманы басейн дадалі 2 разы па 24 л вады, басейн запоўніўся. Колькі літраў вады было ў басейне, калі зараз у ім 100 л?

**6.** Складзі і рашы задачу.
Складзі адваротныя задачы.

| Маса аднаго рукзака (кг) | Колькасць рукзакоў (шт.) | Маса ўсіх рукзакоў (кг) |
|---|---|---|
| 5 | 3 | ? |

**7.** Выберы схему. Рашы задачу.
Каця аддала 2 цукеркі Насці, і ў дзяўчынак стала цукерак пароўну. У каго з дзяўчынак цукерак было больш? На колькі больш?







**8.** Перыметр трохвугольніка роўны 6 см. Знайдзі даўжыню адной стараны, калі вядома, што ўсе стораны аднолькавай даўжыні.

**9.** Колькі прамых вуглоў? Вострых вуглоў? Тупых вуглоў?




? Знайдзі значэнні выразаў.

$3 \cdot 8$    $8 \cdot 3$



**1.** Вылічы.
$3 \cdot 4$    $8 \cdot 3$    $14 : 2 + 29$    $3 \cdot 9 + 17$

**2.** Даўжыня ломанай з трох аднолькавых звёнаў роўная 15 дм. Знайдзі даўжыню аднаго звяна.



$$\frac{15 : 3 = ?}{5 \cdot 3 = 15} \qquad \frac{24 : 8 = ?}{3 \cdot 8 = 24}$$

Растлумач роўнасці. Запомні.

| | | |
|---|---|---|
| 3 · 3 = 9 | 9 : 3 = 3 | |
| 3 · 4 = 12 | 12 : 3 = 4 | 12 : 4 = 3 |
| 3 · 5 = 15 | 15 : 3 = 5 | 15 : 5 = 3 |
| 3 · 6 = 18 | 18 : 3 = 6 | 18 : 6 = 3 |
| 3 · 7 = 21 | 21 : 3 = 7 | 21 : 7 = 3 |
| 3 · 8 = 24 | 24 : 3 = 8 | 24 : 8 = 3 |
| 3 · 9 = 27 | 27 : 3 = 9 | 27 : 9 = 3 |

**1.** Знайдзі дзелі лікаў. Запішы роўнасці.

| Дзялімае | 9 | 8 | 12 | 18 | 24 | 15 | 21 | 27 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзельнік | 3 | 4 | 3 | 6 | 8 | 5 | 3 | 3 |

**2.** Які з трох лікаў з'яўляецца здабыткам двух іншых? Якія два лікі з трох — дзеллю? Састаў здабыткі і дзелі.

27 9 3    3 7 21    8 3 24    5 3 15

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| 7 · ? = 21 | 8 · ? = 24 | ? · 6 = 18 |
| 15 : ? = 3 | 24 : ? = 3 | ? · 3 = 27 |

**4.** За кожную гадзіну Міша паспявае з'ехаць з гары на лыжах 3 разы. Колькі разоў Міша зможа з'ехаць з гары за 4 гадзіны?

**5.** З кавалка дроту даўжынёй 12 см патрэбна зрабіць квадратную рамку. Якой будзе даўжыня адной стараны рамкі?



**6.** З таго ж кавалка дроту патрэбна зрабіць трохвугольнік з роўнымі даўжынямі старон. Падумай, большай ці меншай будзе даўжыня стараны гэтага трохвугольніка ў параўнанні з даўжынёй стараны рамкі. Правер сваё меркаванне.

? Знайдзі значэнні выразаў.

24 : 3 24 : 8



**1.** Вылічы.

3 · 7 + 21 27 : 3 – 5 24 : 3 + 42

**2.** Мама з 18 маткоў нітак звязала сурвэткі. На кожную сурвэтку яна расходавала па 3 маткі нітак. Колькі сурвэтак звязала мама?

**1.** Састаў здабыткі і дзелі па ўзоры.

$3 \cdot 4 = 12$
$4 \cdot 3 = 12$
$12 : 3 = 4$
$12 : 4 = 3$

| · | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 4 | 6 | 8 | 10 | 12 | 14 | 16 | 18 |
| 3 | 6 | 9 | 12 | 15 | 18 | 21 | 24 | 27 |

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $3 \cdot 4$ | $9 \cdot 3$ | $24 : 3$ | $18 : 9$ |
| $12 : 4$ | $27 : 9$ | $21 : 3$ | $16 : 8$ |
| $12 : 3$ | $27 : 3$ | $18 : 3$ | $14 : 7$ |

**3.** Састаў роўнасці і знайдзі іх значэнні.




**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| $7 \cdot ? = 14$ | $2 \cdot ? = 10$ | $? \cdot 6 = 12$ |
| $? : 2 = 4$ | $8 : ? = 2$ | $14 : ? = 7$ |

**5.** Запішы ў слупок. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 61 + 24 | 48 + 38 | 48 – 23 | 50 – 29 |
| 57 + 19 | 37 + 43 | 67 – 38 | 73 – 45 |

**6.** У школьным буфеце 6 хлопчыкаў купілі па 3 булачкі. Колькі ўсяго булачак купілі хлопчыкі?

**7.** Складзі і рашы задачу.
Складзі адваротныя задачы.

| Расход тканіны на 1 спадніцу (м) | Колькасць спадніц (шт.) | Расход тканіны на ўсе спадніцы (м) |
|---|---|---|
| 2 | ? | 18 |

**8.** У чэрвені 30 дзён, у ліпені і жніўні па 31 дню. Ужо прайшло 47 дзён лета. Колькі дзён засталося да восені?

**9.** Выберы ломаную, даўжыню якой можна вылічыць з дапамогай выразу $2 \cdot 3 + 3$.






**1.** Вылічы.
18 : 2 18 : 3 18 : 9 18 : 6

**2.** Знайдзі, колькі ўсяго піражкоў з капустай і з тварагом спякла бабуля, калі з капустай было 15 піражкоў, а з тварагом на 7 піражкоў больш.

## Паўтарэнне за 2-і клас

**1.** Назаві адназначныя і двухзначныя лікі. Павяліч двухзначныя лікі на 1.

6 35 16 8 90 77 1 3 28 29

**2.** Запішы лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

49 27 38 84 67 52

**3.** Параўнай.

4 дзяс. ? 4 адз.

10 адз. ? 1 дзяс.

5 дзяс. 8 адз. ? 5 дзяс. 4 адз.

7 дзяс. 1 адз. ? 7 дзяс. 2 адз.

**4.** Вылічы.

(72 – 2) + 4

(61 + 1) + 10

(50 + 10) – 1

80 – (40 + 4)

1 + (100 – 80)

70 – (43 – 3)

**5.** Вылічы.

3 · 7

3 · 9

24 : 3

21 : 3

12 : 4

18 : 6

3 · 4 – 5

5 · 3 + 16

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

32 + ? = 39

77 – ? = 73

56 + 3 – ? = 57

44 + 3 + ? = 48

**7.** Устаў прапушчаныя лікі, каб роўнасці былі правільныя.

7 · ? = 21    ? · 6 = 18    15 : ? = 3
8 · ? = 24    ? : 3 = 9    24 : ? = 3

**8.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.




**9.** Запішы ў слупок. Вылічы.

37 + 32    54 + 29    19 + 45    68 + 32
79 – 24    92 – 75    60 – 41    100 – 54

**10.** Устаў прапушчаныя лічбы.

+ 2* / *3 / 89    + *7 / 5* / 98    − 7* / *2 / 34    − *4 / 2* / 77

**11.** Тату 35 гадоў, а маме 29 гадоў. Узрост сына роўны рознасці ўзростаў таты і мамы. Колькі гадоў будзе сыну праз 4 гады?

**12.** У баку машыны 53 л бензіну. Для паездкі ад дома да дачы патрэбна 8 л бензіну, а для таго, каб потым з’ездзіць на рыбалку, — яшчэ 5 л. Колькі літраў бензіну застанецца ў баку пасля паездак?

**13.** Для вучняў купілі 37 білетаў у кіно, а білетаў у цырк — на 8 больш. Колькі ўсяго білетаў купілі вучням?

**14.** Спачатку ў парку пафарбавалі 11 лавак, а потым 17. Засталося пафарбаваць 15 лавак. Колькі лавак у парку?

**15.** Выберы схему. Рашы задачу.
На юбілей маме падарылі 25 руж. Некалькі руж мама паставіла ў вазу ў гасцінай, а 9 руж — у спальні. У мамы засталося яшчэ 5 руж. Колькі руж мама паставіла ў гасцінай?




**16.** За кожную гадзіну бабуля можа звязаць 9 см шаліка. Колькі сантыметраў шаліка можа звязаць бабуля за 3 гадзіны?

**17.** Мама разлажыла 16 тэфтэляў у талеркі, па 2 тэфтэлі ў кожную талерку. Колькі талерак спатрэбілася?

**18.** Складзі і рашы задачы.

1
| |
|---|
| ? |
| |
| |

18 кг

2
| |
|---|
| 6 кг |
| |
| |

?

**19.** Складзі і рашы задачу.
Складзі адваротныя задачы.

| Маса 1 скрынкі з клубніцамі (кг) | Колькасць скрынак (шт.) | Маса ўсіх скрынак з клубніцамі (кг) |
|---|---|---|
| 9 | 3 | ? |

**20.** Прачытай умову задачы. Растлумач выразы.

Для рамонту кватэры купілі 7 рулонаў шпалер, па 10 м у кожным, і 5 рулонаў шпалер, па 9 м у кожным.

7 + 5    10 · 7    7 – 5    9 · 5

**21.** На вагах ляжаць два аднолькавыя па масе гарбузы. Вызначы масу аднаго гарбуза.




**22.** Выберы сказы, якія падыходзяць да адказу задачы 21.

- Маса гарбуза большая за 5 кг.
- Маса гарбуза не роўная 9 кг.
- Маса гарбуза роўная 5 кг або 4 кг.

**23.** Знайдзі даўжыню ломанай.



**24.** Колькі прамых вуглоў?



**25.** Назаві фігуры.
Знайдзі перыметр кожнай фігуры.










**26.** Даўжыня адной стараны трохвугольніка 8 см, другой — столькі ж сантыметраў. Знайдзі даўжыню трэцяй стараны, калі перыметр трохвугольніка 20 см.

**27.** Шырыня прамавугольніка 10 см. Гэта на 14 см менш, чым яго даўжыня. Знайдзі перыметр прамавугольніка. Вырազі рэзультат у дэцыметрах і сантыметрах.

**28.** Які час паказваюць гадзіннікі? Які час будуць паказваць гадзіннікі праз 15 мінут?









## Гэта цікава!

### Што такое літр?




Людзям часта даводзілася параўноўваць ёмістасць сасудаў і адмяраць, колькі вадкасці ў іх змяшчаецца. Напрыклад, у якім вядры змесціцца больш вады? У якім слоіку змесціцца больш малака? Для таго каб такое параўнанне было зручным, у Францыі пачалі выкарыстоўваць мерку — **літр**.

Цяпер літр як меру ёмістасці выкарыстоўваюць у розных краінах.

### Што такое цотныя і няцотныя лікі?

Некаторыя лікі дзеляцца на 2. Гэта, напрыклад, такія лікі, як 4, 8, 12, 16 і многія іншыя.

У матэматыцы такія лікі называюць **цотнымі**.

Некаторыя лікі не дзеляцца на 2. Гэта, напрыклад, такія лікі, як 5, 9, 13, 17 і іншыя. У матэматыцы такія лікі называюць **няцотнымі**.



**Мураўёва, Г. Л.**
М91 Матэматыка : вучэб. дапам. для 2-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан. — 2-е выд., выпр. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2016. — Ч. 2. — 136 с. : іл.
ISBN 978-985-559-628-9.

**УДК 51(075.2=161.3)**
**ББК 22.1я71**

Вучэбнае выданне

**Мураўёва** Галіна Леанідаўна
**Урбан** Марыя Анатольеўна

**МАТЭМАТЫКА**

Вучэбны дапаможнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Н. М. Мамчыц*
Мастакі *І. В. Лазерка, Ю. М. Галавейка, Л. М. Рудакоўская*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейка*
Карэктары *К. В. Шобік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 14.07.2016. Фармат 70×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,95. Ул.-выд. арк. 4,82. Тыраж 7670 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

